*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 16 верасня 1988 г. № 37 (3447) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

ЛЮДЗІ РОДНАГА КРАЮ

Пчаляр. Адвечная, нялёгная і такая патрэбная людзям прафесія. На здымку: ветэран калгаса «Кастрычнік» Глыбоцкага раёна Васіль Пятровіч Воранаў абыходзіць свае «ўладанні».
Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

## Унумары:

●

Нядаўна зайшоў у мясцовую бібліятэку і ўбачыў на падлозе стос кніг — творы Л. Брэжнева, А. Касыгіна, К. Чарненкі... Кніжкі гэтыя надрукаваны на выдатнай паперы, з адмысловымі вокладкамі. Беларускія выданні твораў Брэжнева былі нават адзначаны першымі прэміямі за лепшае паліграфічнае выкананне. І вось цяпер іх — у макулатуру...

У недалёкім мінулым накладвалася табу на творы Сталіна, потым прыйшла чарга да прац Хрушчова, цяпер вось ідуць пад нож кнігі Брэжнева, Чарненкі... Так, кожны з іх «перапісваў» гісторыю на свой капыл. І мы добра ведаем сапраўдную цану гэтым «працам». Але ж ці не імкнёмся мы зноў «падбельваць» гісторыю, знішчаючы гэтыя творы? Ці не стануць у выніку фаліянты часоў застою бібліяграфічнай рэдкасцю для тых, хто будзе вывучаць нашу нядаўнюю гісторыю?

**М. БУСЕЛ,**
**настаўнік.**
Светлагорскі раён,
в. Дуброва.

*ПА СЛЯДАХ АДНАГО ПІСЬМА*

# Знайшлася Жэня — Яўгенія Паўлаўна

У «ЛіМе» за 19 жніўня г. г. быў змешчаны ліст «Хто ведае пра Жэню?», які даслала нам урач з Оршы Аляксандра Іванаўна Дзядзінец. У пісьме наша чытачка расказала пра нялёгкі жыццёвы лёс былой студэнткі літаратурнага факультэта Жэні Каплуновай, якая ў 1937 годзе была рэпрэсіравана органамі НКУС. Прычына арышту Жэні — перапіска з Платонам Галавачом да таго часу, пакуль ён яшчэ не быў аб'яўлены «ворагам народа».

Больш за пяцьдзесят гадоў А. Дзядзінец нічога не ведала пра далейшы лёс сяброўкі, таму і звярнулася праз газету з людзей з пытаннем-просьбай: «Можа, хто ведае пра яе? Адгукніцеся, калі ласка».

Літаральна праз дзень, як трыццаць трэці нумар «ЛіМа» патрапіў да чытачоў, у рэдакцыю пазваніў пісьменнік Сяргей Іванавіч Грахоўскі і сказаў: «Магу дапамагчы з адрасам, бо з Яўгеніяй Паўлаўнай я добра знаёмы і шмат гадоў перапісваюся з ёю...»

Быў нам званок і ад юрыста Людмілы Васільеўны Глебавай, якая таксама расказала пра незабыўную сваю сустрэчу з Я. Каплуновай.

Так у аддзеле пісьмаў нашага штотыднёвіка апынуўся адрас чалавека, які прайшоў праз жыццёвыя пакуты, спазнаўшы на сабе ўвесь жах сталінскіх беззаконняў. І выстаяў!

Рэдакцыйная пошта таксама засведчыла: людзі не засталіся абыякавымі да просьбы нашай чытачкі А. Дзядзінец. Прыйшоў ліст з Бялынічаў ад М. Карпечанкі. «Прачытаў «балючую» нататку ўрача з Оршы, — піша ён, — і не магу прамаўчаць, не адгукнуцца. Таму прашу перадаць А. Дзядзінец адрас Жэні Каплуновай».

І яшчэ пісьмо. «Спяшаюся паведаміць, што Яўгенія Паўлаўна Каплунова жыве ў Краснаполлі па вуліцы Антонава, — піша супрацоўніца краснапольскай раённай газеты «Чырвоны сцяг» Т. Лазоўская. — Пазнаёміла мяне з гэтай цудоўнай жанчынай былая супрацоўніца нашай газеты Ф. Дуброўская. Часам я наведваюся да Яўгеніі Паўлаўны, каб пагутарыць з ёй, паслухаць яе ўспаміны. Цяжкае жыццё выпала на яе долю. Але яна ніколі не адчайвалася, заўсёды спадзявалася на лепшае. Не скардзіцца яна і цяпер, хоць зноў ёй нялёгка: жыве адна, муж памёр. А трэба і дровы прывезці, і агарод спарадкаваць. А мясцовыя ўлады не вельмі звяртаюць увагу на яе клопаты. Доўгі час працавала Я. Каплунова настаўніцай у Краснаполлі, выкладала рускую мову і літаратуру. Цяпер на пенсіі, але шмат чытае, сочыць за перыёдыкай. Не парывае сувязь і з раённай газетай. І тым, што даведаліся пра жыццё многіх вядомых людзей Краснапольшчыны, мы абавязаны ў многім ёй».

Чалавек адшукаўся!.. Ці ж не вялікая гэта радасць? І гэтай светлай радасцю дзеліцца з намі ў сваім чарговым лісце Аляксандра Іванаўна Дзядзінец: «Сардэчна дзякую «ЛіМу» за тое, што дапамог мне знайсці Жэню. Мы з ёй ужо абмяняліся адрасамі, марым пра спатканне...»

Мы ж, у сваю чаргу, дзякуем усім чытачам, якія прынялі дзейсны ўдзел у нашай публікацыі. І яшчэ мы пакідаем за сабой права вярнуцца да жыццёвага лёсу Яўгеніі Паўлаўны Каплуновай, каб расказаць пра яго чытачам «ЛіМа» больш падрабязна.

**Аддзел пісьмаў «ЛіМа».**

# «АКЦЫЯ ЗБАВЕННЯ» Ў МІНСКУ

Трыццаць год існуе ў Заходнім Берліне грамадская арганізацыя пад назвай «Акцыя збавення». Яна была створана евангелісцкай царквой па ініцыятыве людзей, якія перажылі на ўласным вопыце жахі фашызму. Арганізацыя выступае супраць тэрмаядзернай пагрозы, за мір між народамі. Яе члены выязджаюць у многія краіны свету, працуюць у дамах састарэлых, у месцах, дзе ў ваенныя часы былі канцэнтрацыйныя лагеры, у музеях ахвяр вайны. Такім чынам яны праяўляюць сваё збавенне, усведамленне сваёй віны за зробленае фашызмам.

Групы «Акцыі збавення» наведваюць і Мінск, дзе сустракаюцца з беларускімі пісьменнікамі, у прыватнасці, з Васілём Быкавым (дарэчы, ён нядаўна па іх запрашэнню пабываў у Заходнім Берліне). На гэты раз група нямецкіх студэнтаў выказала жаданне сустрэцца з маладымі пісьменнікамі. На сустрэчу прыйшлі Леанід Дранько-Майсюк, Ала Канапелька, Хрысціна Лялько, Алесь Пісьмянкоў, Тамара Чабан. Госці цікавіліся ўдзелам маладых у працэсе перабудовы, у літаратурным жыцці, у развіцці нацыянальных культурных традыцый.

**Л. ЧАРЭШНЯ.**

**Напярэдадні новага навучальнага года ў рамках традыцыйных жнівеньскіх нарад прайшлі і пасяджэнні ў раённых секцыях настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. Што для іх адметнае ў параўнанні з мінулым?**

# НАСТАЎНІКІ НАСТРОЕНЫ АПТЫМІСТЫЧНА

Асноўнае, бадай, тое, што не падлічваліся з боку райана працэнты атрыманых вучнямі пяцёрак і чацвёрак у «добрых» школах і двоек і троек у «дрэнных», не чыталіся настаўнікамі доўгія выступленні - даклады. На секцыях ішла заклапочаная размова аб месцы беларускай мовы і літаратуры ў духоўным развіцці школьнікаў, аб шляхах паляпшэння выкладання, аб прывіцці вучням цікавасці да прадмета, адзначаліся агульныя недахопы ў ведах выпускнікоў. Заўважу, што да сваёй работы настаўнікі ставіліся крытычна.

Вядома, што літаратурная адукацыя вучняў складаецца з трох параметраў: добрага ведання зместу твораў, тэорыі літаратуры — асновы для выпрацоўкі навыкаў аналізу тэкстаў — і культуры мовы школьнікаў.

Выпускныя экзамены на атэстат сталасці паказалі, што змест праграмных твораў вучні ў асноўным ведаюць. Там, дзе працуе творчы настаўнік, яны цікавяцца беларускай сучаснай літаратурай і выказваюць свае думкі наконт пэўных твораў.

*Слабей вырашаецца* праблема з выпрацоўкай умення аналізаваць мастацкія творы. У аказанні метадычнай дапамогі настаўнікам бачыць сваю першачарговую задачу кабінет беларускай мовы і літаратуры ГІУН, метадычныя службы горада.

Адна з нявырашаных задач у школе — гэта выразнасць чытання. Не гучаць вершы ў вуснах школьнікаў, рэдка працуюць на ўроках над выразным чытаннем і настаўнікі. Асноўная прычына — не ведаюць методыкі. *А некаторыя настаўнікі* і самі чытаюць не зусім добра. Даволі слаба вырашае задачу і спецсемінар на курсах павышэння кваліфікацыі, бо курсы для настаўнікаў бываюць толькі адзін раз у пяць гадоў. Таму ў ВНУ неабходна перагледзець сетку гадзін і ўзмацніць практычны бок навучання студэнтаў філалагічных факультэтаў і факультэтаў пачатковых класаў, каб малады спецыяліст ішоў у школу падрыхтаваным.

Балючым пытаннем застаецца культура мовы школьнікаў. Адносна добра валодаюць беларускай мовай толькі тыя нямногія выпускнікі, якія збіраюцца звязаць свой лёс з філалогіяй. *А з астатнімі нават* самы здольны настаўнік нічога зрабіць не можа. Настаўніку ўдаецца ўтрымаць цікавасць да прадмета толькі ў малодшых і сярэдніх класах. Падрастаюць вучні, больш прыглядаюцца да практычнага боку жыцця і заўважаюць, што сфера ўжывання роднай мовы абрываецца ў школе адразу пасля здачы экзаменаў на атэстат сталасці. Карацей кажучы — няма пераемнасці паміж школай і жыццём.

Нехта можа сказаць, што абітурыент мае права пісаць сачыненне на беларускай мове пры паступленні ў ВНУ. Гэта так. Але абітурыент мае і права выбару, на якой мове пісаць, па-руску ці па-беларуску. Да сачынення на рускай мове маладога чалавека рыхтуе ўся сістэма навучання ў школе, а на беларускай — толькі нямногія ўрокі мовы і літаратуры.

А колькі іх, урокаў беларускай мовы, у школе ў супастаўленні з рускай? Такое параўнанне было добра зроблена П. Садоўскім у адной з тэлеперадач «Ліры». Таму можна лічыць правамернай просьбу настаўнікаў, якія просяць выраўняць колькасць гадзін на вывучэнне рускай і беларускай моў у школе, перавесці выкладанне асобных прадметаў, асабліва гісторыі БССР, на беларускую мову.

А пакуль што рэжым сучаснай школы з рускай мовай навучання — не на карысць беларускай: акрамя таго, што ўсе прадметы выкладаюцца на рускай мове, дык нават і ўсё афармленне школ таксама робіцца па-руску. Хаця ў тых школах, дзе ідзе паглыбленае вывучэнне замежнай мовы, шыльды падпісаны на *адпаведнай замежнай.*

**Не спрацоўваюць на карысць роднай мовы і ўрокі беларускай літаратуры. Справа ў тым, што вучні, якія беларускую мову не вывучаюць, на ўроках беларускай літаратуры павінны гаварыць і ўсе пісьмовыя работы выконваць па-руску. Такім чынам, колькі ў класе вызваленых вучняў, столькі разоў на адным-двух уроках літаратуры ў тыдзень настаўнік пераключаецца з беларускай мовы на рускую і наадварот. А вызваленых ад вывучэння мовы вучняў у Мінску шмат. У працэнтных адносінах, здаецца, не так страшна, у мінулым навучальным годзе — 8,5. Але за гэтай лічбай больш чым 12 тысяч школьнікаў. Нязначна, відаць, іх паменшае і ў бягучым навучальным годзе. А як гэтыя дзеці перашкаджаюць працаваць тым, хто хоча ведаць беларускую мову, настаўнікам: колькі разоў па 45 мінут на працягу навучання ў школе яны застаюцца на ўроках «проста так», без справы, «адпачываць»! Ды і сама з'ява вызвалення ад беларускай мовы — гэта сур'ёзны пралік у вучэбна-выхаваўчым працэсе школы.**

**Настаўнікі беларускай мовы і літаратуры просяць кіраўнікоў народнай адукацыі вырашыць гэтае набалелае пытанне, даць устаноўку заняць гэтых дзяцей грамадска карыснай працай, а тым, хто ўсё ж такі надумаецца вывучаць мову, і тым, хто яшчэ прыедзе ў горад з іншых рэспублік, выдаць дапаможнік ці падручнік. З задачай складання такой кнігі маглі б добра справіцца настаўнікі-практыкі.**

*Мяняецца рэжым* кіраўніцтва работай школы, і настаўнікі беларускай мовы і літаратуры просяць, каб іх работу курыравалі людзі, дасведчаныя не толькі ў пытаннях агульнай дыдактыкі, але якія б і добра валодалі мовай, цікавіліся беларускай літаратурай, адчувалі асаблівасці работы настаўніка-беларусаведа. Гэта першаснова, без якой практычная дапамога настаўніку не мае сэнсу.

Педагогі ўхваляюць тое, што мяняецца праграма па беларускай літаратуры, што яны *цяпер могуць прыняць* удзел у яе абмеркаванні, што ім даецца права выбару твораў для абавязковага вывучэння. Выдатна, што ўсе сышліся на адным: у нашай літаратуры ёсць аснова, класіка, вывучэнне якой павінна быць абавязковым.

З вялікай просьбай звяртаюцца настаўнікі да беларускіх крытыкаў, каб тыя хутчэй рэагавалі на новыя творы. Для прыкладу можна назваць раман у вершах Н. Гілевіча «Родныя дзеці». Твор цікавы, шматпланавы, вострапраблемны. *На ім многія настаўнікі* горада паспяхова вырашаюць задачы патрыятычнага, маральна-этычнага, эстэтычнага, экалагічнага і іншага выхавання. Цяпер на раённай секцыі ў Заводскім раёне *педагогі* дэманстравалі асобныя фрагменты з праведзеных урокаў, а настаўнік-метадыст СШ № 124 В. Войцік паказала панарамны ўрок па гэтай кнізе на секцыі кіруючых кадраў. Жыццё сведчыць, што твор Н. Гілевіча «Родныя дзеці» павінен быць уключаны ў праграму для абавязковага вывучэння і тэрмінова перавыдадзены так, каб яго можна было знайсці ў кожнай школьнай бібліятэцы. А пакуль мы чакаем меркаванні крытыкаў па гэтай кнізе, якія б дапамаглі нам у рабоце з вучнямі.

Выказана было пажаданне перакласці на беларускую мову і перавыдаць кнігу К. Тарасава «Странствие в тесном кругу».

У 9-м класе вывучаецца курс паслякастрычніцкай літаратуры. Таму вельмі важна, каб вучоныя, крытыкі аператыўна зрабілі агляд твораў пісьменнікаў, рэпрэсіраваных у час сталінскага рэжыму, і тым самым далі кірунак у рабоце з гэтымі творамі. Суровую праўду жыцця вучні павінны пачуць непасрэдна ў школе, ад настаўніка.

Практыка работы ў школе *склалася так, што паняцце ін*тэрнацыянальнага выхавання мы прывыклі разглядаць толькі ў дачыненні да рускай мовы, рускай літаратуры. Вядома, што рускую мову павінен ведаць кожны савецкі чалавек. Але не за кошт роднай мовы, бо сапраўднага патрыёта можна выхаваць толькі на народнай аснове. Неабходна добра ведаць і рускую літаратуру Але мы, настаўнікі, ніколі не гаворым пра цудоўную літаратуру іншых братніх народаў: гэта не прадугледжвае школьная праграма, хоць *перакладзеныя* на беларускую мову творы ў нас ёсць. Таму была выказана просьба: пры складанні праграмы для 9—10 класаў увесці курс літаратуры братніх народаў нашай шматнацыянальнай краіны, які б выкладаўся на беларускай мове. Перш за ўсё гэта трэба зрабіць для школ, якія працуюць з паглыбленым вывучэннем беларускай літаратуры і школ Кастрычніцкага раёна г. Мінска, дзе праводзіцца эксперымент.

Урок можа быць добра арганізаваны толькі тады, калі пад рукой настаўніка ёсць усё неабходнае абсталяванне. Аднак на сённяшні дзень з'яўляюцца дэфіцытам нават добра рэпрадуцыраваныя *партрэты* пісьменнікаў, няма прыгожых каляровых ілюстрацый да мастацкіх твораў, набораў малюнкаў для развіцця мовы школьнікаў, рэдка перавыдаюцца некаторыя тыпы слоўнікаў.

На раённых секцыях настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры г. Мінска сталыя педагогі дзяліліся ўласным вопытам. Вялася адкрытая, сур'ёзная размова аб недахопах, праліках у рабоце, у арганізацыі ўрока як асноўнай формы навучання.

Хачу дадаць, што ўсе настаўнікі настроены аптымістычна, вераць, што прадмет «беларуская мова» зойме сваё пачэснае месца сярод іншых школьных дысцыплін. Родная мова стане не столькі аб'ектам вывучэння, колькі сродкам навучання і выхавання. Але для гэтага школе неабходна дзейсная дапамога.

**В. РАМАНЦЭВІЧ,**
**загадчык кабінета беларускай мовы і літаратуры Мінскага гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў.**

# ЧАСОПІСЫ-89: планы, задумы, пошукі

**Поўным ходам ідзе ў рэспубліцы падпіска на газеты і часопісы на наступны год. У рэдакцыю «ЛіМа» звяртаюцца чытачы, якія цікавяцца планамі рэспубліканскіх часопісаў. Ідучы насустрач пажаданням, рэдакцыя друкуе інтэрв'ю з рэдактарамі. Сёння на пытанні нашага карэспандэнта адказваюць С. Законнікаў, Я. Сахута і М. Шавыркін.**

## Сяргей ЗАКОННІКАЎ, галоўны рэдактар часопіса «Полымя»

**— «Вернута з небыцця» — такую рубрыку можна паставіць пад многімі публікацыямі сёлетняга «Полымя». Раман А. Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя», апавяданні Л. Калюгі, А. Гаруна — толькі асобныя з падобных публікацый, а побач творы, напісаныя ва ўмовах сталіншчыны ці як гарачы водгук на гэтыя падзеі пасля так званага перыяду «адлігі», але своечасова ненадрукаваныя. Відаць, такія творы будуць прадстаўлены і ў «Полымі»-89?**

—Цікавасць да малавядомай або зусім невядомай шырокаму чытачу літаратурнай спадчыны за апошні час значна вырасла. І гэта зразумела. Усіх нас хвалюе лёс беларускіх пісьменнікаў 20—30-ых гадоў, які быў растаптаны сталінскай рэпрэсіўнай сістэмай, трагічна абарваўся на самым узлёце творчых магчымасцей. Мы проста не маем права забываць тых, чым талентам, духоўнымі намаганнямі закладваўся падмурак беларускай савецкай літаратуры, якая сёння па праву лічыцца адной з лепшых у нашай краіне, карыстаецца ўвагай і павагай не толькі ў славянскім свеце, але і за яго межамі.

Самае галоўнае, што іх творы, нягледзячы на доўгі прамежак часу, на самыя розныя гістарычныя варункі, якія адбываліся ў нашым грамадстве, гучаць і сёння свежа, па-сучаснаму. Пацвярджэннем гэтых слоў могуць быць хоць бы змешчаныя сёлета ў нашым часопісе раман Андрэя Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя» або апавяданні Лукаша Калюгі.

Мэта рэдакцыі «Полымя» — не толькі вярнуць у жывую літаратуру незаслужана забытыя імёны і творы, але і дамагчыся, каб усё гэта дапамагала чалавеку ў сённяшніх буднях, калі ад кожнага патрабуецца смеласць, прынцыповасць і мужнасць, жаданне адкінуць звыклыя зацвілыя догмы і стэрэатыпы, перайначыць жыццё матэрыяльнае і духоўнае ў лепшы бок. Таму мы ў бліжэйшых нумарах гэтага і ў наступным годзе мяркуем апублікаваць цэлы шэраг такіх твораў. Чытач пазнаёміцца з п'есай «Тутэйшыя» і малавядомымі вершамі Янкі Купалы, спадчынай Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Тодара Кляшторнага, Васіля Шашалевіча і іншых пісьменнікаў. Будуць змешчаны некаторыя незакончаныя творы, якія ніколі не друкаваліся, з рукапіснага архіва Лукаша Калюгі. Ёсць і яшчэ шмат задумак, якія пакуль раскрываць не буду.

Часопіс шырока прадставіць свае старонкі дакументалістыцы. Пра трагічныя падзеі 30-х гадоў, пра жыццё вязня ленінградскай турмы «Крыжы» раскажа Павел Пруднікаў у дакументальнай аповесці «Яжовыя рукавіцы». Арсен Ліс у нарысе «Браты Гарэцкія» пазнаёміць чытачоў з драматычным, складаным лёсам слаўных сыноў Беларусі, братоў Гарэцкіх — пісьменніка Максіма Іванавіча і вучонага Гаўрылы Іванавіча.

Мяркуем, што з прыхільнасцю будуць сустрэты дзённікі Уладзіміра Караткевіча, старэйшай беларускай пісьменніцы Зоські Верас, даследаванні па гісторыі і літаратуры Міколы Ермаловіча, Мікалая Улашчыка.

**— Але ці не атрымліваецца так, што затрымліваецца друкаванне новых твораў празаікаў і паэтаў?**

— Калі мы распачыналі публікацыю спадчыны, то думалі і пра гэта. Аб'ём сучаснай прозы і паэзіі ў часопісе не зменшыўся, плошча знайшлася за кошт неабавязковых, трафарэтных, нецікавых чытачу матэрыялаў па ўсіх раздзелах. Сёння мы вельмі прыдзірліва ставімся да кожнага рукапіса, стараемся, каб не было разбазарвання дэфіцытнай плошчы часопіса на прымітыў, шэрасць. Сёлета чытач пазнаёміўся з раманам Леаніда Дайнекі «След ваўкалака», апавяданнямі Анатоля Кудраўца і Алеся Жука, аповесцямі Васіля Гігевіча і Уладзіміра Някляева, з вершамі Пімена Панчанкі, Алеся Звонака, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Васіля Зуёнка, а яшчэ да канца года з'явяцца аповесць Івана Шамякіна «Драма», п'еса Івана Чыгрынава «Судовая справа Вашчылы», апавяданне Уладзіміра Арлова «Міласць князя Гераніма», успаміны Ніла Гілевіча «Пераджыўшы вайну». У дванаццатым нумары госцем «Полымя» стане ўкраінскі часопіс «Вітчизна», які будзе прадстаўлены імёнамі Алеся Ганчара, Юрыя Мушкетыка, Барыса Алейніка, Івана Драча, Дзмітра Паўлычкі, Уладзіміра Дразда і іншых таленавітых паэтаў, празаікаў братняй рэспублікі.

У новым годзе да слаўнага юбілею беларускага першадрукара Скарыны прымеркавана публікацыя рамана Алега Лойкі, паэмы Рыгора Барадуліна. З новай аповесцю на гістарычную тэму выступіць Вольга Іпатава. У партфелі рэдакцыі ёсць творы Васіля Віткі, Вячаслава Адамчыка, Аляксея Дударава. Над новымі творамі для «Полымя» працуюць Васіль Быкаў, Янка Брыль, Пімен Панчанка, Максім Танк, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Віктар Казько, Анатоль Кудравец, Алесь Жук, Яўгенія Янішчыц, Уладзімір Арлоў, Уладзімір Някляеў. Часопіс таксама пазнаёміць чытачоў і з маладой літаратурнай зменай.

Як бачыце, нават тое, што названа, дае падставу гаварыць, што сучасная літаратура займае асноўнае месца на старонках часопіса, і чытач будзе мець пэўнае ўяўленне пра развіццё літаратурнага працэсу ў рэспубліцы.

**— Нядаўна чытачы пазнаёміліся з аповесцю балгарскага пісьменніка С. Страціева «Дзікія пчолы». Раней, як быццам, «Полымя» не радавала чытачоў перакладнымі творамі, спасылаючыся на абмежаванасць плошчы. Як у гэтым кірунку будзе ісці часопіс далей?**

— Сапраўды, у «Полымі» вельмі рэдка з'яўляліся перакладныя творы. Але ж мы ведаем, што некалі такая традыцыя існавала. Скажам, раман І. Бехера «Люізіт», які на радзіме забараніла друкаваць нямецкая рэакцыя, упершыню быў апублікаваны на беларускай мове ў «Полымі».

Наш часопіс, надаючы асаблівае значэнне ўмацаванню дружбы народаў, будзе пастаянна публікаваць творы пісьменнікаў братніх рэспублік нашай краіны, а таксама краін сацыялістычнай садружнасці і прагрэсіўных літаратараў Захаду. Мяркуем у новым годзе надрукаваць раман Грэма Грына, апавяданні Станіслава Лема. Пастараемся, каб творы перакладаліся з мовы арыгінала, і, як кажуць, яшчэ свежымі траплялі да беларускага чытача.

**— Сённяшняя публіцыстыка, калі яна па-сапраўднаму высокамастацкая, у многім абганяе іншыя віды літаратуры, з'яўляючыся разведчыкам тэм, адкрывальнікам вострых праблем... Як будзе прадстаўлена публіцыстыка ў часопісе?**

— Згодзен з тым, што ніводзін іншы жанр літаратуры не можа паспрачацца ў аператыўнасці з публіцыстыкай. Сёлетнія публіцыстычныя публікацыі часопіса, асабліва на экалагічныя тэмы, выклікалі вялікую чытацкую пошту. Яны разглядаліся ў кіруючых органах рэспублікі, па іх прыняты канкрэтныя меры выпраўлення недахопаў.

У наступным годзе ў раздзеле «Публіцыстыка» прадоўжыцца гаворка пра пашырэнне дэмакратызацыі і публічнасці ў нашым грамадстве, пра сённяшні стан і далейшы лёс беларускай мовы, айчыннай гісторыі, пра развіццё ў рэспубліцы эканомікі, навукі, асветы і культуры. У стадыі падрыхтоўкі знаходзяцца публіцыстычныя творы Івана Чыгрынава, Алеся Петрашкевіча, Івана Філаненкі, Вячаслава Дубінкі і многіх іншых.

Карыстаючыся выпадкам, хачу яшчэ раз заклікаць усіх нашых пісьменнікаў — напішыце кожны хоць па аднаму публіцыстычнаму артыкулу, і вы ўбачыце, якімі цікавымі стануць нашы газеты і часопісы. А тэм жыццё наша дае столькі, хоць адбаўляй!

**— Сяргей Іванавіч, часопіс, як бачна, адмовіўся ад творчых партрэтаў вядомых пісьменнікаў. Тым не менш ёсць патрэба асэнсаваць шлях асобных творцаў. Дзе ж у такім разе выйсце?**

— Ад публікацыі творчых партрэтаў пісьменнікаў мы не адмовіліся. Пра гэта сведчыць хоць бы сёлетняя публікацыя Серафіма Андраюка «Вёска — маці наша...» І надалей будзем такія матэрыялы друкаваць. Галоўнае, каб яны былі напісаны па-мастацку, неабыякавым сэрцам, каб неслі чытачу не толькі інфармацыю, але і аснову для роздуму, духоўны зарад. Больш таго, у наступным годзе мяркуем змясціць не толькі творчыя партрэты сучасных пісьменнікаў, але і тых, пра чый жыццёвы і творчы лёс мы мала ведаем, напрыклад, Алеся Гаруна, Лукаша Калюгі. Гэта будзе цікава і для літаратуразнаўцаў, і для выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, і для ўсіх чытачоў.

## Яўген САХУТА, галоўны рэдактар часопіса «Мастацтва Беларусі»

**— Як вядома, часопіс «Мастацтва Беларусі» з'яўляецца органам Міністэрства культуры БССР, Саюза кампазітараў БССР, Саюза кінематаграфістаў БССР, Саюза мастакоў БССР і Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі. Напэўна, не проста паяднаць пад адной вокладкай інтарэсы розных мастацкіх «цэхаў»?**

— Сапраўды, «нянек» у такога жаданага і доўгачаканага «дзіцяці» шмат. І хоць іх не сем, як у вядомай прымаўцы, але... Прыкметных клопатаў пра часопіс мы, на жаль, не адчуваем. Зацікаўленасць лёсам і характарам выдання ці зусім адсутнічае, як, напрыклад, з боку Саюза кампазітараў, ці прымае нейкія хваравітыя формы, калі некаторыя мастакі скрупулёзна падлічваюць колькасць апублікаваных радкоў пра сваіх калег, пільна сочаць за памерамі ілюстрацый. Нас нярэдка «забываюць» запрасіць на тое ці іншае мерапрыемства ці хоць бы проста папярэдзіць пра яго правядзенне.

Часам ад некаторых дзеячаў мастацтва можна пачуць: «Мы спадзяваліся бачыць часопіс іншым». Але якім? Зайдзіце ў рэдакцыю, дзверы якой адчынены заўсёды і для ўсіх, выкажыце свае думкі і меркаванні, глядзіш — нешта і на карысць пойдзе. Але ж куды прасцей паскардзіцца проста ў цэнтральную прэсу, што часопіс «не апраўдаў надзей».

**— Мяркуючы па сёлетніх публікацыях, вылучаюцца матэрыялы двух аддзелаў — тэатра і выяўленчага мастацтва...**

— Названыя аддзелы заслужылі, каб пачуць добрую ацэнку сваёй дзейнасці. Настойлівыя пошукі выявілі новых аўтараў, часам непасрэдна не звязаных з мастацтвам, але з уласным, арыгінальным поглядам на яго. Няхай іх выступленні не заўсёды бясспрэчныя, але дыскусія — лепш, чым поўнае маўчанне пасля «гладкага» артыкула. Аддзел тэатра, напрыклад, распачаў некалькі дыскусій па набалелых пытаннях тэатральнага жыцця, у якіх удзельнічаюць як спецыялісты - тэарэтыкі, так і практыкі сцэны.

**— Чым новым парадуюць іншыя аддзелы?**

— Аддзел публіцыстыкі, эстэтыкі і гісторыі мастацтва плануе разгарнуць дыскусію пра нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў мастацтве. У галіне выяўленчага мастацтва такая дыскусія фактычна пачалася пасля некалькіх нашых публікацый. Пачатак размовы пра «нацыянальную» сітуацыю ў беларускім тэатры (драматургія, рэпертуар, мова, кадравая палітыка і г. д.) паклаў артыкул А. Петрашкевіча ў сёлетнім шостым нумары. Зразумела, будуць перагорнуты новыя старонкі нашай мастацкай спадчыны. Будзем друкаваць малавядомыя ці невядомыя матэрыялы з культурнага жыцця 20—30-х гадоў, даваць звесткі пра бязвінна рэпрэсіраваных дзеячаў мастацтва. У сувязі з 500-гадовым юбілеем Ф. Скарыны ўбачаць свет новыя даследаванні, звязаныя з імем слаўнага сына беларускай зямлі.

Аддзел музыкі плануе цыкл публікацый па гісторыі сімфанічных аркестраў у Беларусі, дыскусію «Кампазітар — музыказнавец — слухач», абмеркаванне праблем вышэйшай музычнай школы. Пераход кінастудыі «Беларусьфільм» на гаспадарчы разлік будзе адной з галоўных тэм аддзела кіно і тэлебачання. Мяркуем прыцягнуць да абмеркавання гэтай праблемы кіруючых работнікаў нашага кінематографа, вядучых рэжысёраў, кіназнаўцаў, крытыкаў.

**— Папулярнасцю ў чытачоў карыстаюцца і спецыяльныя старонкі «У альбом калекцыянеру». Публікацыі іх будзе прадоўжана?**

— Рубрыку, вядома, будзем прадаўжаць, бо, нягледзячы на шматлікія страты, у нас багатая мастацкая спадчына. Дарэчы, тут мы можам смела карыстацца перавагамі нашага выдання перад іншымі — вялікім фарматам, значнымі ілюстрацыйнымі магчымасцямі, прыстойным колерам.

**— Час дэмакратызацыі, галоснасці — гэта і час актыўнага абмеркавання надзённых праблем. У гэтым сэнсе, думаецца, нямала даюць традыцыйныя «круглыя сталы» з прыцягненнем шырокага кола ўдзельнікаў...**

— ...Таму практыку правядзення іх будзем пашыраць, Абмен думкамі, сутыкненне пазіцый, поглядаў спрыяе больш аператыўнаму вырашэнню нейкіх актуальных пытанняў. Плануюцца «круглыя сталы» па праблемах кінадраматургіі, становішчы спраў у тэатры музычнай камедыі. Час падкажа і іншыя тэмы. Магчымасці, якія адкрыліся перад намі ў перыяд перабудовы і галоснасці, пастараемся выкарыстаць максімальна.

## Міхась ШАВЫРКІН, галоўны рэдактар часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе»

**— Міхась Мікалаевіч, як бачна з першых нумароў часопіса, рэдакцыя імкнецца рабіць выданне цікавае і патрэбнае шырокаму колу чытачоў, усім, хто любіць беларускую літаратуру, дбае пра заўтрашні дзень роднай мовы.**

— Сапраўды, кірунак часопіса абвешчаны ўжо ў яго першым нумары і мы прытрымліваемся яго. Рыхтуем матэрыялы, якія б спрыялі развіццю асобы вучняў, уплывалі б на выхаваўчы працэс сучаснай школы.

**— Часопіс шмат увагі ўдзяляе прапагандзе вопыту лепшых выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры рэспублікі. Змяшчаюцца як творчыя партрэты такіх педагогаў, так і іх выступленні...**

— Настаўнік — галоўная асоба ў перабудове школы. Яму патрэбны, асабліва цяпер, і трыбуна, і апора, і дапамога. На жаль, часопіс яшчэ мала зрабіў у гэтай справе. Вопыт педагогаў намнога багацейшы, чым мы ведаем. Вельмі шкада, што дасягненні лепшых педагогаў не сталі набыткам для астатніх.

**— Знаёмства з творчасцю нашаніўскага паэта М. Арла — яшчэ адзін штрых у рабоце часопіса. Падобныя публікацыі з'явяцца і ў наступным годзе?**

— Часопіс адлюстроўвае дзейнасць педагогаў, а яны заўсёды ў пошуку. Доўгі час, напрыклад, зборам матэрыялаў пра М. Арла займаліся настаўнік Гудзевіцкай СШ Мастоўскага раёна А. М. Белакоз і яго выхаванцы. Шкада толькі, што «Мастацкая літаратура» не выдала раней зборнік вершаў гэтага паэта-нашаніўца.

Вядома, мы не спаборнічаем з літаратурнымі выданнямі. У нас свае задачы. Аднак, пры магчымасці, часопіс будзе знаёміць педагагічную грамадскасць, а праз яе і новыя пакаленні з дзеячамі культуры мінулага. І абавязкова будзем адлюстроўваць пошукі і знаходкі настаўнікаў, якія займаюцца літаратурным краязнаўствам. Падрыхтаваны, напрыклад, М. Л. Сідаровічам, настаўнікам са Слоніма, матэрыялы пра Кандрата Лейку...

**— Наколькі падрабязна часопіс будзе расказваць пра культурнае жыццё рэспублікі?**

— На жаль, у школьным раскладзе пакуль што няма прадмета «Культура Беларусі». На нашу думку, павінен быць. У пачатковых класах «Культура краю», у сярэдніх — «Культура рэспублікі», у старэйшых — «Культура краіны». Выхаваны чалавек ва ўсе часы быў культурна дасведчанай асобай. Чамусьці цяпер такі аспект выхавання і навучання пакідаецца па-за ўвагай.

Праўда, пэўная інфармацыя даецца на занятках пры рэалізацыі міжпрадметных сувязей (калі гаварыць па мове метадыстаў) паміж літаратурай і музыкай, літаратурай і выяўленчым мастацтвам, пры асвятленні асобных тэм на занятках па гісторыі. Цяпер ідзе эксперымент у асобных школах: выкладаецца гісторыя мастацтва. Але на сённяшні дзень гэтага ўжо недастаткова.

Таму наш часопіс, калі ўзяў арыенцір на нацыянальна-інтэрнацыянальнае выхаванне, у першую чаргу звярнуўся да адлюстравання нацыянальнай культуры. Задумы вялікія. У «Пазіцыі», што змешчана ў восьмым нумары, мы выказалі кірункі сваёй дзейнасці. Аднак ажыццявіць свае намеры вельмі цяжка. Тут прычын шмат: аб'ём часопіса не дазваляе шырока даць матэрыялы па культуры (настаўнікі ўсё ж чакаюць найперш метадычных артыкулы), не надта вялікае кола аўтараў...

У гэтай справе, на мой погляд, патрэбны саюз паміж нашымі перыядычнымі выданнямі. Каб новае пакаленне засвоіла здабыткі культуры, варта мэтанакіравана і паслядоўна змяшчаць матэрыялы па гісторыі і культуры, а потым выдаваць іх асобнымі кнігамі ў якасці дапаможнікаў для настаўнікаў.

*Ліст у рэдакцыю*

# «РЭПРЭСІРАВАНЫ» ПРАВАПІС

**Сярод нерэабілітаваных дагэтуль ахвяр рэпрэсій 30-х гадоў — наш, беларускі правапіс.**

**У пастанове СНК БССР за 26 жніўня 1933 года сказана: «Беларускі нацыянал-дэмакратызм... ствараў штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі і засмечваў беларускую мову рознымі сярэдневяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі». Гэтымі словамі па сутнасці вычэрпваецца абвінавачвае заключэнне, тлумачэнне прычыны і патрэбы сумна вядомай моўнай рэформы 1933 года. Рэформа скасавала на пісьме: 1. перадачу асіміляцыйнай мяккасці зычных у словах накштальт «сьнег, песьня, вязьніца, купальле»; 2. пераход пераднаціскнога «е» ў «я» ў прыназоўніку «безь» і адмоўі «не»; 3. перадачу мяккага «л» у запазычаных словах накшталт «кляса», «фальклёр», «філязофія»; 4. перадачу цвёрдага вымаўлення зычных перад галоснымі ў словах накшталт «мэтад», «праспэкт», «навэла» і г. д. Як бачым, гэта была рэформа супраць беларускага вымаўлення, супраць фанетычнага прынцыпу напісання, супраць закона беларускай мовы «як гаворыцца, так і пішацца». Асабліва шкоднымі аказаліся першыя два пункты. Астатнія дагэтуль маюць дыскусійны характар, патрабуюць працягу грунтоўнага і шырокага дэмакратычнага абмеркавання, якое пачалося на акадэмічнай канферэнцыі 1926 года, потым было перапынена рэформай 1933 года і дагэтуль не ўзнаўлялася.**

**Так, мы дагэтуль яшчэ пішам па-беларуску паводле тае рэформы. Але сёння мы ўжо ведаем грамадскую сітуацыю, у якой яна праводзілася, усведамляем яе ненавуковы, вульгарызатарскі характар. Сёння мы ўжо маем аўтарытэтныя выказванні супраць пунктаў рэформы 33-га года — Алеся Яскевіча (у яго кнізе «Грані майстэрства», Мн., 1974, с. 129—130), Яна Скрыгана (Выбраныя творы, т. 2, Мн., 1975, с. 332—333), Максіма Лужаніна (Збор твораў, т. 4, Мн., 1981, с. 469, 523) ды іншых навукоўцаў і літаратараў.**

**Скасаванне мяккага знака і чаргавання «е-я» ў названых выпадках нявечыць мову, робіць слова каляным, жорсткім, асабліва шкодна адбіваецца на мове сёння. Бо для ўсё новых і новых людзей роднае слова прыходзіць не ў вусным, а ў пісьмовым выглядзе, для іх ужо «як пішацца, так і гаворыцца». У выніку мы спрэс чуем тое калянае, жорсткае вымаўленне: са сцэны, па радыё, у побыце.**

**Лічым, што ўжо сёння трэба вярнуць мяккія знакі і пераднаціскное «я» («бяз гэтага», «ня буду»). Пярэчыць гэтаму патрабаванню можа толькі кабінетны бюракрат ад навукі, які сам у жыцці роднай мовай не карыстаецца. Але мова — не манаполія мовазнаўцаў. Гэта наш агульны народны клопат. Трэба, каб і да яго нарэшце дабралася дэмакратызацыя.**

**У. АРЛОЎ, А. АСТАШОНАК, Л. БАРШЧЭЎСКІ, А. БЯЛЯЦКІ, П. ВАСЮЧЭНКА, Л. ДРАНЬКО-МАЙСЮК, А. СІДАРЭВІЧ і іншыя, усяго 15 подпісаў.**

*Крытыка, бібліяграфія*

# СПРАДВЕЧНЫ ЗАКОН

**МАРЧУК Г. Кветкі правінцыі. Раман і аповесць. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.**

Раман Г. Марчука «Кветкі правінцыі» інтрыгуе ўжо сваім загалоўкам, у якім выразна адчуваецца ўласцівая аўтару раскаванасць думкі. Што гэта, свядомая асацыяцыя з «Кветкамі Польшчы» Ю. Тувіма ці, наадварот, з «Кветкамі зла» Ш. Бадлера? Стварэнне новай геральдыкі, новай візітнай карткі Давыд-Гарадка?

Пэўныя супярэчнасці адчуем мы, *асабліва калі знаёміцца з раманам* похапкам, і ў самім змесце. З аднаго боку — дакладныя, каларытныя бытавыя замалёўкі: «Царква каменная.., царква драўляная.., чырванашчокі касцёл, які з трыццаць дзевятага года не дзейнічае, нізенькія драўляныя масткі, і зноў хаты, хаты з адным, двума вокнамі на вуліцу, хаткі, сплеценыя з лазы і крушні ля гліністых берагоў, брукаваны шлях, у канцы якога мураваныя дамы. У іх модныя белашыферныя дахі. Ліпы, высачэзныя таполі на альшанскім шляху, драўляныя крыжы ў ручніках на скрыжаваннях вузкіх вулачак. На беразе тупаносыя лодкі, якія перавернуты дном да сонца і пахнуць свежай смалою. Базар у цэнтры, ля чайной. Вароты базара перакошаныя, вісяць на адной завесе...»

Адразу згадваецца брылёўскае: «Давыд-Гарадок. Можна злятаць на Марс, вярнуцца адтуль і застаць над Гарынню ўсё тую ж бабку з вудай. Стаіць старая, як і стаяла сотні гадоў, спакойна і абыякава». Або крыху далей: «Блiснула светлай шырынёй, здзівіла густой непралазнай зелянінай на берагах царыца Палесся Прыпяць». Ці апісанне неўтаймаванай, нястрыманай і такой лагоднай Гарыні. Тыя мясціны, што так паэтычна апісаў Якуб Колас, у якія так быў улюбёны Караткевіч. Але калі для названых пісьменнікаў гэты край быў усё ж такі ў нейкай ступені экзатычным, то для Г. Марчука — ён родны, адзіны ў свеце. Аб гэтым сведчаць і шчодра ўкропленыя ў канву апавядання родныя словы — мілавіцы — «Олена», «вэсну», «капорэ», «чобаты», «з хазяйства жымо», і пачуццё гонару за «мястэчка з рэдкай назвай», бо заснаваў яго «князь Давыд, які пасля ўмысната асляплення Васілька Цярэбавольскага мусіў шукаць і асвойваць новыя землі», і любоў да сваіх дбайных, руплівых, працавітых, кемлівых і хітрых гарадчукоў, якая нават нагадвае дзіцячую хвальбу — «усе польскія каралі заказвалі хромавыя боты толькі ў гарадоцкіх шаўцоў», а лёды (марожанае) прадавалі нават у Варшаве (ужо бліжэй да ісціны). І верыцца ў шчырасць гэтай любові і захаплення. Таму калі б аўтар спыніўся б толькі на ўзнаўленні старадаўніх і новых легендаў, паданняў, добрасумленным апісанні дзіцячых і юнацкіх уражанняў, адцяняючы іх, расквечваючы прыкметамі сучаснасці — то і ў такім выглядзе твор меў бы права на існаванне. Прынамсі, быў бы не горшым за многія іншыя раманы і аповесці, у якіх героі вяртаюцца да сваіх вытокаў. Тым больш, што гэты край, як гэта ні крыўдна, не меў сваіх сур'ёзных летапісцаў. Вось чаму ён вядомы большасці людзей як места, дзе трэба шукаць легендарную магілу Авідзія (Авід-Гарадок), краіну Цыганію і г. д. Аўтар жа да легендарнага пачатку будзе звяртацца даволі рэдка. Яго трывожыць выразна іншы аспект праблемы. «Гарадок не толькі не быў ужо «Трэцяй сталіцай» магутнага княства, а і раёнам перастаў быць» (У. Караткевіч). Прайшлі тыя часы, калі кожны сабе пан, чым хацеў, тым і гандляваў. Горад дробных рамеснікаў не мог вытрымаць канкурэнцыі буйной *прамысловасці, што пазбавіла* мясцовых мануфактурыстаў надзеі мець добрую капейку са сваіх рук і штодзённай працы. Людзей ахапіла пачуццё трывогі, боязі і жаху за дзень заўтрашні, а павярнуць на старое, як яны адчувалі, было немагчыма. «Гэта разумелі і гарадзецкія майстры, як бы спаважна, бы той буська на сенажаці, ні хадзілі па вуліцах гарадка. Рэдка хто з іх паказваў слязу, калі на працягу двух тыдняў, месяца не было аніякіх заробкаў. Плакалі больш жанкі. Уначы...». Для многіх гэта была катастрофа. Ніхто не ўлічваў спецыфіку псіхалогіі і сацыяльную асаблівасць мястэчка, не было жадання ўнікнуць у канкрэтную справу. Зямля пракарміць усіх не можа. Практычна з сакавіка па чэрвень усё наваколле заліта водамі Гарыні і Прыпяці. А прамысловасці мясцовай амаль няма. Ці не таму з такім болем гаворыць Г. Марчук аб трывогах і спадзяваннях, хвілінах адчаю і спрадвечнай, здаровай веры ва ўсё лепшае. Менавіта таму ён апраўдвае гандаль кветкамі, асуджае тыя парушэнні, на якія ідуць мясцовыя ўлады, каб забараніць такі від дзейнасці. На старонках рамана аўтар будзе імкнуцца быць як мага больш аб'ектыўным, боль аўтарскі прасочваецца толькі паміж радкамі, у скупых рухах (так са шчакі сціраецца сляза). Непасрэдна публіцыстычным стане яго голас, калі ў «Эпілогу» згадае велічны бетонны мост пасярэдзіне Давыд-Гарадка, які дзякуючы намаганням нашых паважаных меліяратараў у бліжэйшы час застанецца без ракі. Бо тут ужо не можа стрымацца. Вось гэтая неабыякавасць, адказнасць за ўсё, што адбываецца ў родным краі, — сведчанне пастаяннай прывязанасці аўтара да свайго Палесся, імкненне жыць яго радасцямі і болем.

**Але Марчук-празаік заўсёды максіміліст. Таму звычайная белетрыстычная задача паэтызацыі свайго кутка, сацыялагізацыі асноўных зрэзаў яго матэрыяльнага існавання ніяк не магла захапіць яго, стаць асноўнай, вызначальнай, аб чым сведчаць і яго папярэднія спробы ў жанры рамана. Аўтар імкнецца спалучыць больш-менш традыцыйны жыццяпіс дзеючых асоб з аналізам іх учынкаў, удзяляючы большую ўвагу апошняму, са зваротам да вечных агульначалавечых праблем. Ці не таму кожнаму з герояў наканавана перажыць, узысці на вяршынны, пераломны момант у сваім быцці-існаванні, пасля якога жыць так, як жыў да гэтага, ён ужо не зможа, бо будзе глядзець на свет і на людзей зусім іншымі вачыма. (Раней людзі называлі гэта па-свойму — бога знайшоў). Для героя рамана Адася Долі такім рубяжом становіцца спроба зразумець трагедыю маці. Ды і сам высокі арэол Маці для Адася яна атрымлівае толькі са смерцю. Раней гэта была проста жанчына, якая будзіла хлопца, клікала вячэраць якраз тады, калі так не хацелася ісці дахаты. Думкі аб маці прыводзяць хлопчыка да ўсведамлення сваёй віны ў гэтай трагедыі. Усведамленне яшчэ дзіцячае — маці памерла, бо я яе не слухаў. «Я пачаў шкадаваць яе, мёртвую, як жывую, бо жывую не шкадаваў, бо жывой яна якраз была для мяне як усё роўна мёртвая».**

«Акрамя ўлады неба, ёсць улада часу», — скажа адзін з герояў рамана. Прыйшоў час, які запісаны на скрыжалях лёсу кожнага з людзей. Час, калі мы пачынаем усведамляць сваё існаванне, асэнсоўваць яго, становіцца не проста прадстаўніком роду homo sapiens, *а канкрэтным чалавекам*, асобай. І для Адася дзень смерці маці стаў сёмым днём. Бо менавіта ў той момант у палескім гарадку, на дне былога мора нараджаўся чалавек. Гэты працэс становіцца асноўным камертонам поліфанічнага гучання рамана.

Але ці не празмерная задача ўскладзена на кволыя плечы, ці не стане традыцыйным рэзанёрам, рупарам ідэй аўтара звычайны местачковы хлопец? Хаця і не такі ўжо ён звычайны. Ён вылучаны са свайго асяроддзя сіроцтвам, хваробай, якая значна абвастрае светаўспрыманне, схільнасцю да музыкі (больш прыроджанай, чым набытай), вечным паляшуцкім імкненнем дайсці да ўсяго самому. Менавіта няшчасці, боль, неўладкаванасць штурхаюць яго паспрабаваць узняцца ад разумення прычыны самагубства маці да вечных праблем жыцця, знайсці адказ на гэтыя клятыя пытанні. Ці не занадта нават для «паляшуцкага нахабства»? Бо ўжо ў самой пастаноўцы праблемы адчуваецца пэўная традыцыя Ф. Дастаеўскага («Браты Карамазавы»). Тым больш, што гэтая традыцыя была ўжо апасродкавана праз нацыянальны вопыт, перш за ўсё вопыт філасофскай прозы М. Гарэцкага, звязаны з пошукамі яго герояў — інтэлігентаў у першым пакаленні. Як некалі аўтар драматызаванага абразка «Антон» праз смерць дзяцей ад рукі бацькі спрабуе зразумець душу беларуса, Г. Марчук смерцю вызначае вартасць і мэтазгоднасць жыцця чалавечага. Ці не таму яго герой, як некалі Лявон Задума, будзе шукаць тое патаемнае, што застаецца пасля чалавека ці кіруе яго справамі. Ён бачыць цень маці ў белай сарочцы, сон, у якім замест маці на беразе застаецца рыбка. «Думаю пра смерць — жыці не хочацца, нічога не радуе, думаю пра жыццё — шкадую, чаму смерць не пасылае».

Наўрад ці тут можна гаварыць аб нейкім запазычанні. Хутчэй аб творчым развіцці традыцыі, незаслужана забытай. Бо самі героі Марчука не вылучаюцца асаблівай начытанасцю — «нашы людзі кніжак не чытаюць, амаль і газет не чытаюць». Да ўсяго яны прыходзяць самі — праз пакуты, праз страты, праз глыбокі роздум, нават праз той здаровы містыцызм, што быў ва ўсе вякі ўласцівы беларусу, а тым больш палешуку. Бо ён заўсёды шукаў той адзіны і спрадвечны закон чалавечнасці. «Паміж небам і часам — чалавек, трэцяя тайна... Шмат чалавеку дадзена на зямлі. Мільярд пачуццяў перажыць дадзена. Пах хлеба, сустрэча з першым буслам, провады жураў, укус пчалы... У кожным дні смерць і ўваскрасенне, толькі трэба ўмець назіраць, — да такіх высноў прыйшоў стары Воўк, самая каларытная постаць рамана, вобраз надзвычай ёмкі, уражлівы і пераканаўчы, сапраўдная ўдача аўтара. — Чалавек павінен на зямлі дзве рэчы шукаць: ісціну і веру... яны дадуць яму і сілу, і апору, і любоў».

Ніхто з герояў рамана не ведае гэтай ісціны ў апошняй інстанцыі. І аўтар не дае ім палёгкі, як гэта бывае, загадзя падрыхтаванымі адказамі на ўсе праблемы. Яны падыходзяць да ісціны самастойным шляхам. «Ёсць, — гаворыць Воўк, — тры найвялікшыя святы, якія чакаюць цябе наперадзе: каханне — свята душы, работа — свята розуму, смерць — свята цела». Адась Доля праходзіць свае кругі існавання, якіх (відаць-такі не выпадкова) — сем. Названы і размешчаны яны так — І. Самагубства; ІІ. Хвароба; ІІІ. Каханне; IV. Насенне; V. Грошы; VI. Шчасце; VII. Хата. Гэта не дантавы кругі, а вечны кругазварот жыцця, імклівы і бязлітасны. Што ж набывае, што страчвае герой у гэтых спрадвечных і такіх новых для яго вандраваннях па пакутах і радасцях? Што засталося і што змянілася ў ім з кожным зваротам на чарговы этап жыцця? Менавіта гэта пастаянна ў цэнтры ўвагі пісьменніка, а сам прыём вяртання дазваляе дакладна прасачыць эвалюцыю героя. І таму нельга, відаць, раман назваць споведдзю маладога чалавека. Бо гэта не проста споведзь, а яшчэ адзін шлях — шлях пошукаў і знаходак. Ці не таму сваю споведзь аўтар звяртае да чытача, якога лічыць народам, «а мой народ і ёсць бог для мяне таксама». Неабходна зрабіць усё, каб *душа не чарсцвела, а прагнула* ачышчэння. Толькі тады, лічыць аўтар, адчуеш вытокі жыццялюбства і міласэрнасці свайго народа, толькі тады можаш сказаць: «Я, здаецца, разгадаў тайну чалавека! Гэта неўміручасць духу і бессмяротнасць дабраты, дзядзька Воўк!» У гэтай веры яго падтрымлівае ўпэўненасць у тым, што ў кожнага з нас ёсць, былі Маці, Бацька, Дзед, Баба, прадзеды, родны кут. Многія з іх адыходзяць, але вяртаюцца дрэвам, травінкай, дажджом, святлом зоркі. І таму, калі ў канцы рамана Адась Доля вяртаецца на Радзіму, верыцца ў праўду гэтага вяртання.

Ave vita! Такімі словамі завяршаецца раман. Але не думкі, народжаныя ім. А таму нам рана ставіць кропку. І не толькі таму, што ў кнізе, акрамя рамана, змешчана і аповесць «Паляшук», герой якой, апошні ветэран Айчыннай вайны ў маленькай вёсачцы Карней Семянчук, спакойна і разам з тым велічна пакідае тую зямлю, на якой шукае сябе Адась Доля.

Высокі зарад чалавечнасці, захопленасць лёсам сваёй зямлі і сваіх герояў уздзейнічаюць на чытача, а таму не адразу звяртаеш увагу на некаторыя выразныя недахопы рамана і аповесці. Адзін з іх — празмерная перавага рацыянальнага, калі пэўная сітуацыя з'яўляецца своеасаблівым сцвярджэннем тэзіса, а не лагічным вынікам развіцця дзеяння. Гэта ў сваю чаргу ўплывае на кампазіцыю твора. Яна падчас залішне раскавана і ў нечым нагадвае зараджэнне і развіццё думкі, пульсацыя якой не заўсёды падпарадкавана жалезным законам логікі.

**Іван ШТЭЙНЕР.**
г. Гомель.

**Ліст ад Лявона Мкртчана, вядомага літаратуразнаўцы, глыбокага спецыяліста ў галіне перакладу, я атрымала ў першай палавіне ліпеня. Гэта быў якраз той напружаны час, калі паведамленні аб падзеях у Ерэване і Сцепанакерце ў сувязі з праблемай Нагорнага Карабаха ўжо друкаваліся ў газетах і перадаваліся па радыё і тэлебачанні штодзень. «І ўсё ж такі я не трачу надзею, — пісаў Лявон. — Жыццё дапаможа нам знайсці выйсце са становішча ледзь не безвыходнага...» Мудрыя і мужныя словы!**

**Да ліста была прыкладзена рэцэнзія аспіранта Ерэванскага універсітэта Ціграна Хзмаляна (Л. Мкртчан — прафесар гэтага універсітэта) на зборнік вершаў Рыгора Барадуліна «Кожны чацвёрты», што выйшаў у перакладзе Ігара Шклярэўскага на рускую мову і вылучаны ў гэтым годзе на Дзяржаўную прэмію СССР. Калі я, зайшоўшы ў Саюз пісьменнікаў, расказала, што Лявон Мкртчан даслаў рэцэнзію свайго аспіранта на кніжку Барадуліна, нехта шчыра здзівіўся: «Няўжо ім там зараз да Барадуліна?» Адказ на гэта ёсць у лісце з Ерэвана, прытым адказ, як кажуць, па вялікаму рахунку. «Я люблю лірыку Барадуліна, —піша Л. Мкртчан.— У яго слове я чую голас беларускага лёсу. А беларускі лёс па сваім трагізме і па сваёй стойкасці, мабыць, адзін з найбольш агульначалавечых. І нам, армянам, ён вельмі блізкі і зразумелы».**

**Не ведаю, як хто іншы, але я ўспрыняла апошнія словы як міжвольны дакор тым, хто за сваім клопатам, забываецца на чужыя боль, пакуты, праблемы, працу... Што ж тычыцца самой рэцэнзіі, дык яна, на мой погляд, адзначана вельмі ўважлівым, а часам і праніклівым падыходам да паэзіі нашага выдатнага паэта.**

**Юлія КАНЭ.**

# ВЫРАТАВАННЕ АД ЗАБЫЦЦЯ

Высокія паэтычныя вобразы не ствараюцца штучна — іх даруе паэтам жыццё. Вось і назва кнігі вершаў Рыгора Барадуліна «Кожны чацвёрты» — не паэтычная метафара, а вядомая формула жахлівай статыстыкі чалавечых страт Беларусі ў мінулай вайне. І ўсё ж кніга гэтая пра жывых, не пра мёртвых. Пра жывых, выратаваных словам паэта ад забыцця. І яшчэ гэта кніга вяртання — да вытокаў, да маленства, да парога.

Два колеры пераважаюць у палітры Барадуліна, які шукае адпаведнасці паміж суравымі ніцямі графічнага малюнка і хронікай душы: чорная зямля і белы снег, чорныя крылы белага бусла, чорнае гора Белай Русі, чорна-белы ўспамін...

**Черный вол моей тревоги,**
**Белый вол моей надежды...—**

так пачынаецца кніга. І вось як пра тое ж у адным з апошніх яе вершаў:

**Оставлю вам все краски в поле,**
**Отполыхаю, отпылю!**
**Белоголовым дай мне долю**
**Лечь в землю черную твою.**

Такімі ж чорна-белымі, а не ідылічна каляровымі былі і дзіцячыя сны паэта, які з эпічнай дакладнасцю сказаў пра сябе:

**Черноголовым из-под снега,**
**Как гриб, я вырос из войны...**

«Я вырос из войны» — ці не гэта горкая праўда засталася галоўнай для пакалення паэта?

Ёсць, бадай, нейкі асаблівы беларускі погляд на вайну, які вядомы нам па вогненных старонках кніг Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Святланы Алексіевіч і іншых беларускіх пісьменнікаў. Кніга Барадуліна «Кожны чацвёрты» як быццам бы не пра тое. Амаль няма ў ёй карцін вайны, хіба якая пара метафар:

**За скошенным лугом роты дубрав,**
**Как партизаны, идут в маскхалатах...**

І раптам урываецца ў верш такі шчымлівы, такі пакутлівы вобраз, што цямнее ўваччу і даўкі камяк перахоплівае горла:

**...И просит дитя из ямы:**
**—Дяденька, не зарывайте глубоко,**
**А то не найдут нас мамы...**

А ці казаў хто-небудзь пра вялікае так проста, як барадулінскі араты:

**Что на краю переднем наши хаты,**
**Запомнил навсегда чужак.**

Жахлівых падрабязнасцей жыцця, «звышрэалізму» (у сэнсе, прапанаваным А. Адамовічам) альбо выштукаваных метафар (накшталт наступнай: «Небо — как лодки варяжской днище») у «Кожным чацвёртым» няшмат. Паэтычная смеласць Рыгора Барадуліна ў іншым — у амаль дэманстратыўным «архаізме» яго сродкаў і мэт. Заўважым: назва кнігі звернута не толькі да гістарычнай памяці, але і да зрокавага вобраза. Тры дрэвы, тры бярозы Хатыні — гэта сімвал жывых. Пафас вершаў Барадуліна прымушае ўспомніць тое кола аўтараў і ідэй, якія мы звязваем з так званай «вясковай прозай». Па аналогіі з гэтым тэрмінам можна было б далучыць Рыгора Барадуліна да «вясковай паэзіі». Падставы для гэтага даюць шмат якія яго вершы.

**Я старомоден и люблю**
**Земли тяжелую волну,**
**Бегущую за плугом...**

альбо элегічнае:

**Воспоминания болят во сне.**
**Старые яблони не приживаются на асфальте...**

альбо вось гэты радок, што гучыць як крэда: «Мой путь — лесами, хуторами...» З «деревенщиками» родніць Барадуліна «боль перерубленных корней»:

**Какую даль себе ни сватай,**
**В конце у своего крыльца**
**Услышишь ты скворца над хатой,**
**То внук отцовского скворца!**

Тут спявае і шчабеча тая мілая сэрцу малая радзіма, расстанне з якой наносіць паэту незагойную рану. Гэта было ў Астаф'ева, Матэвасяна, Распуціна — такі ж горкі і роспачны сарказм:

**Быстро пойму болот осушили,**
**Как прощальную чашу, да дна.**
**Перетерли лесам сухожилья.**
**Далеко перспектива видна.**

Так, «вясковая» паэзія не з меншай пяшчотай, чым «вясковая» проза песціць і галубіць малую радзіму хат і лясоў. Але ў паэтычным свеце Рыгора Барадуліна прырода яшчэ і адухоўлена. І, больш таго, амаль поўнасцю і з вялікім майстэрствам, перадавочным і ў рускім перакладзе, атаясамліваецца з людзьмі, якія ў ёй жывуць. (Дарэчы, здаецца нам, што ў перакладзе, у адпаведнасці з уласнай манерай перакладчыка Ігара Шклярэўскага, Барадулін гучыць больш жорстка, чым у арыгінале).

Нязвыклая і дзіўная па бытавому каларыту, кніга Барадуліна нечым нагадвае магічны бытапіс яго земляка Шагала. Адчуваецца, што паэт цешыцца самім пералікам беларускіх назваў і імёнаў, прымушаючы іх перагуквацца, салодка мяшаючы і «блытаючы» іх:

**Любит? Покинет?**
**Уборть? Иль Пина?**

Тут, дзе ўсё побач, вёскі, мястэчкі і вялікія гарады, Ушачы, Дземянцы, Цётча, Чарсцвяды, Гайкі, Ваўчкі, Віцебск, тут, дзе «отплясал свое дядька Андрей, тётка Ольга свое отплакала», дзе пасля вайны «бабье лето гуляет по бабьим селам»,— шукае паэт сваю аснову і апору. Гэтыя імёны і назвы, чыстай вады беларускія словы, захаваныя перакладчыкам, ужо самі па сабе з'яўляюцца скарбам і ўкладам у экалогію мовы і культуры.

І яшчэ: «вясковая» тэма ў Рыгора Барадуліна здольная дзёрзка і весела перайначваць і абвяргаць звыклую «гарадскую» мудрасць. Так у вершы «Почтенье духу деревенской печки» паэт, заступаючыся за зямлю і землякоў і хвалячы «свое болото», «свой шесток», нібы дражніць свайго неназванага апанента: «Шесток — алтарь!.. Шесток — сонет из кирпича и глины».

Як бы ні назваць паэзію Барадуліна — ці то «ціхай», ці то «вясковай»,— галоўнае, што яна ў лепшых сваіх узорах вяртае адно аднаму чалавека і прыроду. «Дерево» і «деревня» — суседзі па кораню, з'яднаныя чалавекам. І звяртаючыся па сілу і памяць да лесу:

**А мне вспоминается снова,**
**Как с веткой беседует ветка...**

паэт вяртаецца да людзей з думкай і словам:

**...Я слушать учился у леса.**
**Пора мне дослушать соседа.**

Можна сказаць, што пара ўжо даслухаць і цудоўнага беларускага паэта Рыгора Барадуліна, глыбей адчуць і зразумець яго паэзію, яго словы.

**Ціграан ХЗМАЛЯН.**
г. Ерэван.
Пераклад Юліі Канэ.

# ДВАЦЦАТЫЯ: ЖЫЦЦЁ І ВЕРШЫ

**М. Мішчанчук. «Беларуская савецкая паэзія 20-х гадоў». Мінск, «Вышэйшая школа», 1988.**

Сучасная эпоха — эпоха перагляду выпрацаваных у застойны перыяд канцэпцый. Гэтыя працэсы актыўна адбываюцца і ў літаратуразнаўстве.

Кніга М. Мішчанчука «Беларуская савецкая паэзія 20-х гадоў» адрасавана студэнтам педінстытутаў рэспублікі і таму не прэтэндуе на паглыбленае тэарэтызаванне, адкрыццё нейкіх агульных заканамернасцей у даваенным літаратурным працэсе. Яна мае прыкладны характар. І разам з тым аўтар не мог не ўключыцца ў глыбейшую размову пра літаратуру. Гэта відаць з многіх старонак кнігі. М. Мішчанчук даследуе некаторыя асаблівасці прыгожага пісьменства 20-х гадоў, творчасць М. Чарота, А. Дудара, У. Хадыкі, А. Моркаўкі, а таксама Ц. Гартнага, А. Гурло, Я. Пушчы, В. Маракова, Т. Кляшторнага, С. Дарожнага, Ю. Таўбіна, А. Звонака. Цэнтральнае месца ў даследаванні займае артыкул пра творчасць Янкі Купалы, погляды якога на тагачасную кастрычніцкую рэчаіснасць аўтар дапаможніка лічыць праўдзівымі, мужнымі і канкрэтна-гістарычнымі: «Малы час уяўляўся яму неарганізаваным, драматычным, такім, калі нешта нават з мінулага страчваецца ці можа быць страчана...» Многа цікавых думак і назіранняў ёсць у заключным артыкуле—«Крок насустрач новаму». Увогуле кніга цікавая як пастаноўкай агульных праблем, так і ўдумлівым, непаспешлівым аналізам мастацкіх тэкстаў, канкрэтнымі вывадамі і рэкамендацыямі, адчуваннем суаднесенасці твораў з часам.

Сярод агульных станоўчых момантаў адзначу і выбар прозвішчаў паэтаў. Сярод іх — абсалютная большасць забытых на доўгі час, незаслужана рэпрэсіраваных, ні ў чым не вінаватых людзей. Пра іх не напісаны манаграфічныя даследаванні. Ды што там манаграфіі — нават у кнігах пра савецкую паэзію агляднага характару імёны іх толькі згадваюцца.

Варта адзначыць таксама і ўменне аўтара прыслухацца да таго, што было сказана раней пра згаданы літаратурны перыяд, здольнасць тактоўна весці дыскусію з апанентамі. Да прыкладу, у раздзеле пра творчасць Т. Кляшторнага. Слушнымі з'яўляюцца таксама заўвагі М. Мішчанчука пра неабходнасць перагляду творчасці тых літаратараў, якія адчулі драматызм і складанасць паслякастрычніцкай эпохі і не спяшаліся адлюстраваць тагачасныя дасягненні ў форме оды, рытарычна. Даследаванне М. Мішчанчука дае студэнтам тэарэтычныя звесткі, уводзіць у курс палемікі пра літаратурны працэс 20-х гадоў.

Аўтар пазбягае вульгарызацыі эстэтычных з'яў, асцярожны да выказвання катэгарычных меркаванняў пра сацыяльныя погляды мастакоў. М. Мішчанчук перш за ўсё адштурхоўваецца ад мастацкіх тэкстаў, аналізуе творы, якія самі сабой сведчаць пра таленавітасць паэтаў, непаўторнасць іх манеры пісьма, адданасць перабудове ў грамадстве.

Аналіз мастацкай асновы твораў прывёў М. Мішчанчука да высновы пра эклектычны характар стылю многіх паэтаў 20-х гадоў, дзе спалучаўся пошук новых фармальных сродкаў адлюстравання рэчаіснасці і адданасць рэалістычным традыцыям. На аснове такіх назіранняў нарадзіліся і некаторыя больш канкрэтныя высновы так, напрыклад, М. Мішчанчук заўважае, што ў літаратуразнаўстве сцвердзілася думка пра заснавальніка «Маладняка» як пра чыста грамадзянскага паэта. І яна адпавядала тым публікацыям, якія мы маем пасля рэабілітацыі пісьменніка. Першыя ж, прыжыццёвыя публікацыі, у прыватнасці са зборніка «Завіруха», даюць падставу гаварыць пра М. Чарота як пра паліфанічнага паэта, якому не былі чужыя пошукі сімвалістаў і рамантыкаў, які пісаў творы глыбока трагедыйныя па змесце.

Сапраўды, і да нашых дзён захаваліся стэрэатыпныя ацэнкі творчасці некаторых пісьменнікаў, нярэдка пераважаюць спрошчаныя, схематычныя погляды на асобныя праявы літаратурнага працэсу. М. Мішчанчук свядома ўзмацняе палемічныя моманты. І мы па-новаму чытаем старонкі творчасці М. Чарота і А. Дудара, У. Хадыкі і В. Маракова, А. Моркаўкі і А. Звонака. Паэзія 20-х гадоў выяўляецца як надзвычай арыгінальная і непаўторная з'ява.

Але не пазбаўлена кніжка М. Мішчанчука і недахопаў. Хацелася б больш смелых і канкрэтных выказванняў пра жыццёвы лёс згадваемых пісьменнікаў. Усе яны — вялікія пакутнікі за рэвалюцыйную праўду. Многія з іх аддалі за яе заўчасна свае жыцці. Можа, час ужо гаварыць пра гэта на поўны голас, карыстаючыся архіўнымі звесткамі, называючы віноўнікаў трагедыі.

А ў ідэале мне бачыцца даследаванне аналагічнага характару пра беларускую паэзію (прозу, драматургію) 20—30-х гадоў, бо многа яшчэ неадкрытых чытачу імёнаў, многа зборнікаў з неразрэзанымі старонкамі ляжыць у бібліятэках і чакае ўважлівых чытачоў і даследчыкаў.

**Яўген АДАМОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**дацэнт кафедры моў**
**і літаратуры БДТМІ.**

# ПА-СЯБРОЎСКУ, ПРЫЛЮДНА



**Фёдару ЯНКОЎСКАМУ — 70**

«Вучыўся, настаўнічаў, дзве вайны перажыў, знёс клопату і трывог, голаду і холаду, меў назаўсёды не адну страту, перажыў жахлівыя трагедыі».

Аўтабіяграфія ў адным сказе. У пэўнай меры, якую вызначае сталая сціпласць, ён, гэты жыццяпіс, расшыфроўваецца ў кнігах Фёдара Янкоўскага, вучонага і пісьменніка.

Калі пра дзве вайны, дык гэта саракаградусныя маразы на фінскай, цяжкае раненне, бясконцыя дні і ночы ў шпіталях; потым Вялікая Айчынная, спачатку падпольшчык, тады камандзір разведкі, які падняцца ў сядло самастойна яшчэ ўсё не вельмі мог.

Мне даводзілася бываць з Фёдарам Міхайлавічам у тых мясцінах, дзе ён партызаніў,— паўночнае наваколле Мінска і Радашкавіч,— я чуў, што і як людзі гаварылі пра яго разумную чалавечнасць і ў маладосці, назіраў, як спакойна і радасна ён сустракаўся з тымі мужчынамі, жанчынамі, якіх на ўсё жыццё запомніў некрыклівымі патрыётамі. «Спакойна» — гэта сказалася не зусім дакладна: праўда, спакойна ў тым сэнсе, што табе няма чаго саромецца мінулага, аднак спакой толькі знешні, бо ў ім затоена і шчаслівае, і журботнае хваляванне.

Страты, трагедыі... Было з найбліжэйшымі. Было, вельмі многа было перажыта ў баях, франтавых і партызанскіх, ўбачана, адчута і ў руінах шматпакутнага, няскоранага Мінска, і на крывавых папялішчах родных вёсак.

Ну, а вучоба, вясковае настаўніцтва, зноў вучоба, інстытуцкае выкладанне, навуковыя пошукі — гэта вялікі і змястоўны шлях ад буквара ў палескай школцы да цэлай бібліятэкі ўласных прац мовазнаўцы з айчынным і міжнародным прызнаннем, з мноствам падрыхтаваных ім настаўнікаў роднай мовы. Усё жыццё настаўнік. Святая праца і літаратараў, пачынаючы ад Цёткі, Коласа, Гарэцкага...

З ранняга вясковага юнацтва, з адвароту лістка ў насценным адрыўным календары запомніліся мне словы Меражкоўскага, якія працытую з памяці:

«Дагэтуль адны многа ведалі, але мала любілі, другія многа любілі, але мала ведалі, і толь-

## МУЗАМ НА ПАЦЕХУ

**Павел МАРЦІНОВІЧ**

**ПАРОДЫІ**

## *Евін яблык*

Да д'ябла!
Богу ў твар я кінула б той яблык,
што, сарваны Евай, зноў і зноў
вырастае, на спакусу іншым.
Таіса БОНДАР.

Гэта ты за нейкую правіну
На парозе сталасці сваёй
Богу ў твар шпульнула б садавіну?
Божа мой!

кі той, хто будзе многа любіць і многа ведаць зможа зрабіць нямала».

Іменна такі ён, наш юбіляр, мужны і верны ахоўнік свяшчэннага агню роднай мовы, яе высокай народнай культуры і несмяротнай красы.

Дастойны працяг, шчодрае дапаўненне навуковай дзейнасці прафесара Янкоўскага — кнігі яго *мастацкай прозы*, глыбінна-простая мудрасць і майстэрская адточанасць лірычных запісаў і эсэ.

Сямідзесяцігоддзе нашага таварыша хораша ўшанавана выданнем кнігі «З нялёгкіх дарог». Гэта яго найдаражэйшае, што выбрана самапатрабавальным аўтарам з некалькіх папярэдніх зборнікаў. Можна дадаць — гэта яшчэ і тое, што не толькі добра чытаецца, але і перачытваецца як жывое, ад чулага сэрца і сталага розуму.

Тры моманты па-новаму ўбачыліся мне пры чытанні гэтай кнігі, пераважная большасць густога і празрыстага зместу якое вядома была і раней. Тры моманты, тры вырашальныя вузлы.

Ліпень саракавога года. Орша... Нават падумалася над тымі старонкамі, што не дарма яна, Орша, адзін з нашых галоўных чыгуначных вузлоў... Спісаны франтавік з рукою на перавязі, вяртаючыся пасля ўсіх маразоў-баёў-шпіталяў, доўга на гэтым вузле чакаў свайго цягніка. І там быў развязаны ці завязаны — як тут найдакладней сказаць? — галоўны вузел яго жыцця. Там ён глыбока канчаткова ясна адчуў сваё прызванне,— зноў пачуўшы роднае беларускае слова, апынуўшыся паміж найраднейшых людзей, прыняўшы матчыну ласку старэнькай вясковай жанчыны, што накарміла яго, «салдаціка», і прывеціла. Цяпер яму — толькі зноў у школу сваю, да чыстых вачэй, поўных святла, нявіннага даверу, дапытлівасці, гарэзлівага шчасця! Да сваіх патаемных сшыткаў, дзе запісы народных слоў ды сказаў *вякамі адшліфаванай*, ачышчанай мудрасці!..

Нельга, вядома, катэгарычна сцвярджаць, што іменна там, на вакзале вузлавой Оршы, былы настаўнік, былы салдат, ціхмяны глускі хлапчына, іменна тады, на сваім ужо шматвопытным дваццаць другім годзе ўпершыню адчуў, у чым яго жыццёвае прызванне, — такое думалася, прадчувалася і раней. Аднак ён сам лічыць тыя гадзіны вакзальнага чакання, тыя сустрэчы з людзьмі, тое вяртанне ў свет роднага слова вельмі значным, знамянальным днём свайго жыцця, скажам яшчэ раз — вузлавым.

Гэта было хвалюючым пачаткам таго, што значна пазней, ужо тады, калі нам што дзень, то ўсё больш уласціва думаць пра вынікі ды пралікі, калі пасівелы, прытомлены, чыстай вады заслужаны дзеяч навукі, таленавіты празаік скажа:

«...Маё роднае слова, родная літаратура вялікага краю, родная Беларусь. Вы — мая радасць і ўцеха, вы — мая скруха і боль, вы — маё шчасце, жыццё».

Не давялося тады маладому настаўніку доўга пашчыраваць у зноў жа сваёй, дафрантавой вясковай школе, пахваляваўшца над сшыткамі запісаў...

У яго вышэйзгаданай кнізе выбранага ёсць раздзел з простай назвай «У садзе».

А было яно ў садзе Антося Лявіцкага, больш вядомага ў нашым народзе па крыху дзіўнаватым псеўданіме Ядвігін Ш., у чэрвені сорак трэцяга года, у дні чарговай фашысцкай блакады гэтых мясцін. Аднае ночы там адбыўся смяротна-хвалюючы паядынак цішыні і асцярожнасці. Група карнікаў засела ў тым садзе, затаілася ў чаканні партызан, што меліся тут прайсці, як часта праходзілі. Група партызан-разведчыкаў таксама спынілася там, адчуваючы блізкую небяспеку. У сціхоцці чакання, грознай напружанасці ўсіх думак, усіх пачуццяў, галоўны сярод разведчыкаў заслухаўся салаўінаю песняй, задумаўся прозай Ядвігіна Ш., паэзіяй маладога Купалы, таксама тут земляка, частага госця ў доме радашкавіцкага аптэкара Лявіцкага... Ад роднага слова, ад салаўінай песні пайшоў ён, затоены партызан, на вяршыню мудрасці і красы, — у творчым хваляванні ўспомніў, перажыў заключны акорд неперасўзыдзенага «Хаджы-Мурата»...

Глыбей ісці няма куды,— ты на самым надзейным грунце роднай зямлі, найважнейшай усенароднай справы, адгэтуль усё-ўсенька ўбачана, адчута, улічана, толькі з такога падмурка, з такое цвердзі можна ўздымацца, стартаваць.

А партызаны ў тым паядынку маўчання перамаглі. Засада карнікаў «не дачакалася» іх, пайшла адтуль напуста.

Галоўны разведчык, той малады, яшчэ ўсё нямоглы ад карэльскіх ран настаўнічак, той паэт у душы, у садзе тым, як і ў Оршы, адчуў свой галоўны вузел, сваё прызначэнне — яшчэ раз.

Трэцім вырашальным момантам як найяснейшага бачання, яшчэ адным вузлом на жыццёвым шляху бачыцца мне і тое, што ў раздзеле «Полымя», адным з наймацнейшых у кнізе «З нялёгкіх дарог».

Полымя роднага ачага, з маленства роднай печы, перад якою нясе сваю нястомную службу маці, у якой палаюць сухенькія, бацькам назапашаныя дровы, нязгаснае полымя дружнай і працавітай сям'і. Як гэта добра бачыцца ў сталасці! Сям'я, адчуванне яе,— прадзеды, дзяды, бацькі, мы самі, нашы дзеці, унукі, праўнукі. Цягласць, бясконцасць, вечнасць жыцця, першааснова роднай гісторыі. І шчасце наша, і грунтоўная школа, і ўдзел у сыноўнім служэнні.

Хай будзе блаславёнай сённяшняя маладосць з яе крынічнай прагай нацыянальнага адраджэння, няхай жывуць і множацца святыя парывы нашых юнакоў і дзяўчат.

А зблізку бачачы такіх, як Фёдар Янкоўскі, чытаючы яго кнігі — сапраўднаю роднай мовай, разумна пра родную мову — добра, з гордасцю і верай думаецца: нам ёсць што любіць, ёсць што абараняць. Слова яго, шчырасць яго, вернасць яго можна браць у дарогу, як спрадвеку бярэцца хлеб.

**Янка БРЫЛЬ.**

---

Лепш дала б пакаштаваць сяброўцы,
Укусіць якому пацану,
Бо за яблык той на Камароўцы
Трэ плаціць бязбожную цану.

Недзе ў пекле радуюцца чэрці:
— Не было такога барыша,
На агні сядзець і яблык жэрці
Будзе гэта грэшная душа.

## Адпеты лёс

Хай ставіць злоснік
з выглядам адпетым
На нас з табой
гвалтоўнае сіло.
Пятрусь МАКАЛЬ.

Бадай, пачварна выглядае гэты
Апеты злоснік з выглядам адпетым.
Калі адпеты — пэўна, і прапіты.
Хоць пудзіла са злосніка рабі ты.

З пахмурным да агіднасці мурлом
Трасе сваім гвалтоўніцкім сілом.

Па ўсім відаць — пагрозы не пустыя,
І схопіць нашу пару за хвасты ён.

Не пойдзе з ёй да лесу ці да гаю,
А на базар — загнаць, як папугаяў.

---

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Усё пачалося з песні

**Раздзел з аўтабіяграфічнай аповесці «ПЕРАЖЫЎШЫ ВАЙНУ»**

МАЕ ЗНАЁМСТВА з паэзіяй, прычым — з паэзіяй вялікай, несмяротнай, пачалося яшчэ да таго, як я навучыўся чытаць.

Шчыра кажучы, яно пачалося ў поўным сэнсе слова з калыскі. Зрэшты, як, бадай, і для кожнага — у нядаўнім мінулым — вясковага чалавека, які нарадзіўся і вырастаў у атачэнні магутнай стыхіі народна-паэтычнай творчасці, на ўлонні паэзіі старажытных свят і абрадаў, у чароўным свеце народных песень і казак, легенд і паданняў, прымхліц і бываліц, замоў і загадак, прыказак і прыгаворак, прыкмет і павер'яў. Я зрабіў агаворку — «у нядаўнім мінулым», бо, на вялікі жаль, сапраўды так: сёння ад гэтага бязмежнага акіяна-мора народнай паэзіі засталіся хіба што асобныя азерцы ды ручаліны, у цэлым жа яно «выпарылася» і «высахла» на бязлітасных ветравеях часу.

Калыска — падвешаныя на двух пастронках вялікія ночвы — гайдалася ў нашай хаце, асабліва зімовай парою, амаль кожны дзень. Здымаліся тыя ночвы з вяровак толькі тады, як трэба было купаць малое або мыць бялізну. Гутаталіся ўсёй грамадой: двое ці нават трое меншых садзіліся ў ночвы, а двое большых станавіліся на полюсці, трымаліся рукамі за пастронкі і разгойдвалі калыску. Колькі гойдаліся — столькі і гучала ў хаце, пад нізкай жоўтай столлю, песня. Да дзіцячай спеўкі іншы раз, у які-небудзь з суботніх ці нядзельных вечароў, далучаўся бацька, — у яго быў добры голас і ён ведаў нямала як сучасных, навейшых, так і даўніх, народных песень. Мама, хаця і мела голас, і любіла песні, ведала іх, — амаль не спявала з намі ніколі. На гэта ў яе проста не было часу: з ранняй раніцы і да самай ночы яна была ў вечным клопаце пра дзяцей і гаспадарку. Гэта будзе тым больш зразумела, калі ўлічыць, што бацька доўгія гады працаваў на нізавой савецкай рабоце далёка ад нашай роднай вёскі і дома бываў толькі наездамі.

Што мы спявалі, гайдаючыся ў калысцы? Самымі першымі песнямі, якія ўвайшлі ў маю дзіцячую свядомасць і засталіся ў памяці, былі любімыя бацькавы: «Зялёны дубочак, шырокі лісточак», «Бяду вяду, бяду вяду — бяда не вядзецца», «Ці ўсе лугі пакошаны, ці ўсе сенажаці», «Камандзір герой, герой Чапаеў», «Лейся песня, на просторы...», «Нас не любяць, нас баяцца поп кудлаты і кулак» (толькі ў студэнцкія гады даведаюся, што апошняя з названых — гэта знакамітыя ў свой час «Камсамольскія прыпеўкі» Кандрата Крапівы).

Шмат песень у раннім дзяцінстве пачуў я ад дзядзіны Барбары — першай жонкі старэйшага бацькавага брата Аляксандра. Жыла яна на адным з намі падворку — дзверы ў дзверы, вокны ў вокны, паміж хатамі — возу не праехаць. Калі Аляксандр сям'ю пакінуў, яна ўзяла прымака і нарадзіла яшчэ трое дзяцей, з якімі мы па-суседству і сябравалі. *Барбара спявала дома за работай*, асабліва — прадучы кудзелю ці воўну. Калаўрот ціха гудзе, а яна спявае: нягалосна, задушэўна, сама для сябе. Песні яе — усе як адна — чамусьці сумныя, жаласныя. Але ж надта прыгожыя і бяруць за сэрца. Я сяджу з яе хлопцамі — Алегам і Толем — на печы і, зацінаючы дыханне, слухаю. Іншы раз мне здаецца, што яна пяе са слязьмі, галосячы — ажно хочацца злезці і падысці бліжэй, глянуць, бо з печы не відно: яна сядзіць да нас спіною. Глыбей за іншыя ўрэзаліся ў памяць песні: «Ой, на гары ялушачка, пад гарою стаіць сосна», «Ой, пайду я ў каморачку, прысланю там галовачку...», «Спіўся казак, спіўся, на свой дом забыўся...», «А за садам рэчачка, а за садам быстрая», «Прала бы я кудзелячку — галоўка баліць...» Як яна іх жаласна пела! Няўжо прадчуваючы будучыню?

Лёс нашай дзядзіны і яе сям'і склаўся трагічна. У трыццаць сёмым «хапун» схапіў яе мужа-прымака — непісьменнага калгаснага конюха і вясковага краўца, які, шыючы мужчынскія порткі ды світкі, гэтым падзарабляў крыху. Нехта некуды паведаміў, што ён, пасучы ў полі коней, сустракаецца з польскімі шпіёнамі і прыносіць ім есці. (Між іншым, у тыя ж самыя дні ў суседнім Плешчаніцкім раёне той жа «хапун» загроб і яе першага мужа Аляксандра Гілевіча, з-за чаго і наш бацька, партыец, амаль дваццаць гадоў — аж да смерці Сталіна і Берыі — жыў як родны брат «ворага народа» ў няпэўнасці і вечным страху). А першага мая сорак трэцяга года не стала і Барбары і ўсёй яе сям'і: і яе, і пятнаццацігадовую Лёню, і двух падлеткаў-сыноў, і трохгадовага ўнука расстралялі ў нашым Баранавіцкім лесе фашыстоўцы. За тое, што старэйшы сын, ён жа — сын «ворага народа», Алёшка пайшоў у партызаны. Праз колькі дзён мы адкапалі ўпотай іх трупы і перазахавалі на вясковых могілках. Як то кажуць: не судзі, доля, ні дзецям, ні ўнукам нашым бачыць такое! Разам з Барбарай былі пахаваны і ўсе яе недаспяваныя песні. Колькі яна іх ведала і колькі панесла навек з сабою — гэтага сёння ўжо ніхто не скажа. А колькі такіх Барбар за тры гады няволі сышло ў зямлю па ўсёй Беларусі? І колькі разам з імі згінула навекі нашых песенных скарбаў?..

Прыгадваю і даваенныя летнія адвячоркі пары касавіцы і жніва. Я стаю, малое хлапчаня, на гумне і гляджу туды, дзе пад звечарэлым сонцам жаўцеюць жытнёвыя пагоркі і адкуль даносіцца чароўны, поўны журбы і смутку, працяжны жаночы спеў. Гэта спяваюць жнеі, жнучы жыта. Песні старыя, тыя, што пеліся, можа, і дзвесце і трыста гадоў назад. Галасы жней коцяцца ў перадвячэрняй цішыні далёка-далёка, па ўсім наваколлі. І ёсць у гэтым спеве нешта такое, што зачароўвае і прымушае мяне забыцца на сябрукоў і на тое, чаго я прыбег на гумно. О, гэтыя жаночыя галасы ў полі! Здаецца, стаяў бы і слухаў іх вечна! Калі ж жніво будзе закончана, жанкі збяруцца ў хаце старога Банука на дажынкі. Вядома ж, без дзяцей гэта свята абысціся не можа, і я *пачую там ужо іншыя песні*, якія будуць гучаць у застоллі: жартоўныя, вясёлыя, радасныя...

У школе, у тыя апошнія перадваенныя гады, і на ўроках спеваў і на вечарах вучнёўскай самадзейнасці спяваліся пераважна новыя савецкія песні, папулярныя ва ўсёй краіне. Трэба сказаць, што цікавасць да іх у асяроддзі вясковай школьнай моладзі была незвычайная. Помню, настаўніца Зінаіда Аляксандраўна Таболіч прыносіла на ўрок патэфон, і мы слухалі, і прасілі паставіць пласцінку яшчэ раз, калі песня асабліва дападала да душы. Так прыйшлі і назаўсёды аселі ў памяці песні «Кацюша», «По военной дороге...», «Шел отряд по берегу...» (пра Шчорса), «В далёкий край товарищ улетает...», «Тучи над городом встали», «На седых уральских кручах вороны кричат» (пра смерць Чапаева), «Якорь поднят. Вымпел алый...», «Орлёнок», «Тачанка», «Ой вы кони, вы кони стальные», а таксама цэлы касяк песень пра Сталіна: «На дубу зеленом...», «Собирались козаченьки», «В седом океане, в полярной пустыне», «Споем же, товарищи, песню» і іншыя. У дзень Першага мая, маршыруючы строем па вёсцы, мы спявалі «По долинам и по взгорьям», «Три танкиста», «Ну-ка, солнце, ярче брызни» і, вядома ж, — «Если завтра война, если завтра в поход». Пра *магчымасць вайны сталыя* мужчыны, якія заходзілі вечарамі ў ДСК пастукаць у даміно ці пачытаць газеты, гаварылі тады нямала, можа, таму гэта песня з яе сапраўды «суровым напевам» і трывожыла, мабілізоўваючы адпаведныя пачуцці, і аднак жа ўсяляла безагаворачную ўпэўненасць, што калі давядзецца — то «на вражьей земле мы врага разгромим малой кровью, могучим ударом».

Як выйшла напраўду — якой крывёю заплаціў народ за перамогу над ворагам, — сёння мы ведаем добра. Ужо на сёмы дзень вайны наша Лагойшчына, ад якое да заходняй граніцы было не менш трохсот кіламетраў, апынулася пад акупацыяй. Неўзабаве ў Слабадзе паявіліся бежанцы з Мінска, дзе, натуральна, не стала чаго есці, і яны перабраліся — хто да бацькоў, хто да сваякоў — сюды, у вёску. Мабыць, некаторыя з іх і прынеслі з сабой спецыфічны гарадскі фальклор — гэтак званыя «блатныя песні», раней для мяне зусім не вядомыя. У большасці сваёй гэта былі песні — як бы сказалі цяпер — нечытэльныя, пошлыя і паскудныя. Сярод іх нават такія «перлы», як «Гоп са смыкам» («Граждане, послушайте меня!») ды «Раз я выпил с друзьями по привычке», здаваліся рэчамі досыць бяскрыўднымі. І гэты «фальклор» быў засвоены гэтак жа дасканала, як і цудоўныя народныя песні дзядзіны Барбары, як і прыгожая, высокаадухоўленая савецкая песенная лірыка перадваенных гадоў.

На пачатку сорак чацвёртага мяне моцна захапілі песні партызанскія — *настолькі, што я* нават наважыў запісаць іх у спецыяльна дзеля гэтага зробленую малютку-кніжачку. Так паявіўся першы ў маім жыцці рукапісны спеўнічак. На першай яго старонцы вялікімі «друкаванымі» літарамі было выведзена: «Пішу собсцвеннай крывёю, што перажыву вайну». На другую — быў занесены заклік,

(Працяг на стар. 8—9).

## «ДОЛЯ НЕ ПРЫДЗЕ САМА...»

Апошняе, найбольш поўнае выданне твораў Якуба Коласа выйшла ў чатырнаццаці тамах (Мн., 1972—78). Але і ў ім надрукавана не ўсё, што напісаў народны пясняр. Яго багатая літаратурная спадчына яшчэ па-належнаму не сабрана. На тое шмат прычын. Жыў Якуб Колас, як вядома, у даволі складаны час, час вялікіх, гістарычных перамен і крывавых, спусташальных войнаў. Даводзілася шмат пераязджаць, часта мяняць, асабліва на пачатку творчай дарогі, месца жыхарства і працы. Да таго ж, у яго двойчы рабіліся вобыскі, канфіскоўваліся вершы, апавяданні, артыкулы, дзённікі, пісьмы — у 1907 годзе, калі ён жыў у Вільні ў рэдакцыі газеты «Наша Ніва», і другі раз ужо на кватэры ў Мінску, калі рыхтавалася судовая справа слуцкага настаўніка Ю. Лістапада (1924 г.), па якой прыцягваўся ў якасці сведкі і пясняр — тады яго, накрыўшы з галавою кажухом — каб не бачыў, хто капаецца ў стале і рукапісах (а капаўся адзін са знаёмых літаратараў), — проста такі абрабавалі, захапілі нават перапіску з жонкай Марыяй Дзмітрыеўнай...

Ёсць у класіка нашай літаратуры і творы, якія не трапілі ні ў адзін з яго збораў, нават і ў чатырнаццацітомнік, па іншых прычынах. Гэта перш за ўсё алегарычная «казка жыцця» «Дудар», якая была напісана яшчэ ў дарэвалюцыйны час і надрукавана ў кнігах «Родныя з'явы» (Вільня, 1914) і «Казкі жыцця» (Коўна, 1921), а таксама некаторыя вершы. Калі ў «Дудары» востра ставіцца праблема існавання беларускай мовы, яе права на жыццё («не адбірайце ў мяне таго, што можа адабраць толькі Бог!»), дык у вершах закранаецца не менш набалелае і важнае — пераемнасць, сувязь мінулага з сучасным і будучым, змаганне з адвечным прыгнётам і ўціскам беларускага народа, які ніяк не можа парваць ланцугі няволі. Ёсць тут і водгук-крык на Рыжскі мірны дагавор, паводле якога Беларусь была падзелена на дзве часткі — палова яе насельніцтва і тэрыторыі, у тым ліку і родныя мясціны песняра, адышлі пад панскую Польшчу. Ёсць вершы і іншага плана, нават быццам асабістыя. Але ўсе іх, акрамя высокага паэтычнага майстэрства, родніць і яшчэ адно — боль душы чалавека, які самааддана любіць свой край, свой народ, жадае яму дабра і шчасця. Гэтыя вершы напісаны Якубам Коласам у гады найвышэйшага ўздыму яго генія — у гады працы над лепшымі сваімі творамі, вяршынямі беларускай літаратуры — паэмамі «Сымон-музыка» і «Новая зямля». Верны сын Бацькаўшчыны ўважліва і зацікаўлена сачыў за ўсім, што тады адбывалася на Беларусі. І па-свойму рэагаваў, адгукаўся на падзеі ў жыцці народа. Гэта яскрава відаць і ў яго сусветна вядомых паэмах і ў вершах, што напісаны ў тыя незабыўныя, узрушлівыя дні.

Барыс САЧАНКА.

### *Нашы публікацыі*

**Якуб КОЛАС**

●

Яшчэ адзін усход мінаю
І ў новы круг дзянькоў іду
І на парозе іх пытаю:
«Куды, куды цяпер брыду?»

Якая здарыцца прыгода
У маім блуканні без дарог?..
Ідуць, ідуць у вечнасць годы,
Як хмаркі ў сініх небясох.

І я б хацеў уведаць: «Дзе ты,
Той страшны жыцця паварот,
Калі на звод ідуць ужо леты,
Калі з гары зачаўся сход!»

22.X.1917 г.

●

Я кожан год свой дзень
радзінаў
Прывык у раздум'і ўспамінаць.
Якіх праяў, якіх навінаў
На год мне новы пажадаць?

А я б хацеў, каб год мой новы
Вярнуў мяне ў мой родны кут,
На Нёман светлы ў лес хваёвы,
У тыя вёскі, дзе наш люд,

Дабрэйшы ў свеце, лямку
цягне,
Не змогшы крыўды звязваць,
І лепшых дзён і волі прагне,
Ярэм'і тыя паскідаць.

Што ім чужынцы з сваякамі
Уздзець маніліся даўно
І засланялі ім вякамі
Ад свету белага вакно...

Дык дай жа мне, мой год
малоды,
Мой бацькаў вугал павітаць,
А гэты край рыжабароды
У думках толькі ўспамінаць.

22.X.1918 г.

### *Дубы*

На пацеху, на здзіўленне
Тут дубы стаялі,
І глыбока іх карэнні
Цвёрды грунт аралі.

Комлі, велічы грамады
З бурамі спрачаліс
І вакол старой пасады
Горда красаваліс;

І гулі іх верхавіны
Гутаркаю сталай
Пра даўнейшыя часіны
Долі заняпалай;

Пра мінулыя прыгоды
Гіблых часаў, слаўных.
Тут стаялі з году ў годы
Сведкі дзеяў даўных.

Гожым летам ці вясною,
Раніцой на ўсходзе
Штосьь шапталі між сабою
У добрым ладзе, згодзе.

Можа казкі жыцця, долі
Ціха утваралі,
Або песню вольнай волі
Там, ў лістох, складалі;

А мо сонейка віталі,
Дзень хвалілі новы, —
Не, не ўніклі, не ўчыталі
Іх таемнай мовы.

Наляцелі ж буры злыя,
*Толькі ўжо не з неба:*
Дзеі, засевы ліхія
Узгадавала глеба,

Глеба цёмная, сляпая,
Глеба злосці, гневу —
Абудзілась цьма людская,
Плод ліхога севу...

Эх, дубы, дубы вякамі
Вы збіралі сілы,
Не звалодаў віхар з вамі,
Вас здалелі пілы.

Ашальмаваны вам чолы,
Ссечаны кароны.
І, пасеўшы на верх голы,
Там крычаць вароны.

22.III.1921 г.

### *Родныя малюнкі*

Бітыя дарогі,
Цьмяныя пуціны,
Вольныя разлогі,
Узгоркі і даліны...
Белыя бярозы,
Пышныя таполі,
На балотах лозы,
Вербы сярод поля...
Рэчкі і азёры,
Мурагі, чароты,
Ціхія прасторы,
Лес, гаі, балоты...
Вас не пералічыш,
Не акінеш вокам,
Голасам не склічаш,
Вас не змерыш крокам!
Ды ляглі над краем
Хмары-навальніцы,
Рубяжоў няма ім,
Ім няма граніцы!
Выйдзеш ты ў дарогу,
Даль цябе жахае
І малітвы Богу
У сэрцы выклікае.
Ёсць у гэтай далі
Хараство і чары;
Узнімуць цябе хвалі,
Засмяюцца мары.
Ты ідзеш, бажаеш,
Повен ты надзеі,
Ды не прачуваеш,
Дзе твае зладзеі.
Наплываюць туманы
Горкае нядолі,
І куюць кайданы
Цяжкае няволі.
Ты ідзеш скрозь церні,
Уперадзі — каменні,
Сееш праўды зерні,
Разбіваеш звенні
Ланцуга ліхога,
Скованага злымі.
Цяжкая дарога;
Ты апутан імі!
Радасць ты пачуеш,
Як ланцуг парвецца.
Ды ты зноў гаруеш —
Зноў звяно ўпляцецца
У шнур агідлы гора,
Што канца не мае,
І цяпер, як ўчора,
Сэрца смутак знае.
Кавалі другія,
А ланцуг той самы —
Песні ўсё старыя
Неаджытай гамы...

20.VIII.1921 г.

### *Беларускаму люду*

Змоўкні ты, сціхні, песня
пакуты,
Заварушыся, наш край!
*Люд беларускі! Рві свае путы!*
Новую песню спявай!

Дружна, згодна станьма
сцяною,
Доля не прыдзе сама,
Воля не зойдзе к нам стараною,
Збоку дарог ёй няма.

Люд! Праканайся: толькі мы
самі —
Долі свае кавалі.
Годзі жа, досыць панукаць
намі,
Гнаць з нашай роднай зямлі!

# Усё пачалося з песні

(Працяг. Пачатак на стар. 7).

які часта паўтараўся ў нашай партызанскай газеце: «Забі немца, забі гада, а то ён цябе заб'е!..» А далей ішлі песні: «На коне вороном выезжал партизан...», «В темной роще густой партизан молодой...», «Не для меня придет весна...», «Бабуся, бабуся, откуда ты родом?» і іншыя. Помніцца, што апошнюю з іх я звязваў з зусім канкрэтнымі трагічнымі падзеямі. Упершыню я пачуў яе яшчэ на зыходзе зімы ў сорак трэцім, пасля невялікага мітынгу ў Слабадзе, на якім партызан-агітатар вельмі ўзрушана, з болем і гневам, расказаў аб тым, як фашысцкія вылюдкі тры дні запар бамбілі і расстрэльвалі з самалётаў вёскі нашага раёна — Дзяніскі, Барыскі, Жабічы, Дашкі, Карпілаўку, Селішча... Спяваў яе тады партызан з суседняй Мураванкі Валодзя Рулькевіч (па-вясковаму Сінюк). Калі дайшло да слоў:

**— А где же, старуха, старик**
**твой девался?**
**А где твои дочки, сыны?**
**— Над дедом и дочкой снаряд**
**разорвался,**
**Сыны в партизаны ушли, —**

у мяне запяршыла ў горле і на вочы набеглі слёзы. Я не сумняваўся, што ў песні гаварылася пра лёс людзей вось з гэтых зруйнаваных фашысцкімі бомбамі нашых вёсак.

Тое, што многія з партызанскіх песень — перайманні або пераробкі даўнейшых песень народных і нават гэтак званых «турэмных» — пра гэта я даведаюся няскора, толькі ў гады студэнцтва. А тады — як я мог усумніцца, што прыгожы малады партызан, седзячы з гармонікам на імправізаванай сцэне, спявае не пра сябе, а пра кагосьці іншага, — партызан, які, можа быць, заўтра пойдзе на баявое заданне і загіне ад варожай кулі:

**Не для меня придет весна,**
**Покроет луг ковром зелёным.**
**Сражаясь с немецким**
**батальоном,**
**Там пуля ждет давно меня...**

Былі ў тым маім першым спеўніку і тры народныя песні. Адна з іх — украінская «Дзеўка ў сенях стаяла». На канцэрце партызанскай агітбрыгады яе выконваў дуэт — незнаёмы партызан, відаць, украінец родам, і наша слабодская дзяўчына Волька Жызнеўская. Песня страшэнна мне спадабалася сваім дасціпным гумарам. На другі дзень вечарам я пайшоў да Жызнеўскіх (яны таксама жылі тады ў Айнаравічах), каб запісаць ад Волькі гэту песню. Волькі я дома не застаў, але яе маці Ганна, даведаўшыся, чаго я прыйшоў, прапанавала свае паслугі — сказала: «Дык я ведаю гэтую песню, запісвай!». І, завіхаючыся з чапялой ля печы, прадыктавала мне ўвесь тэкст. Калі праз паўтара дзесятка гадоў я стану чытаць для студэнтаў-філолагаў курс лекцый па вусна-паэтычнай народнай творчасці і пасля арганізоўваць вучэбную практыку па збору фальклорных матэрыялаў — я ўспамінаю той зімовы вечар, і жоўты водсвет, што падаў ад полымя ў печы на мой сшытачак, і падумаю, што, мабыць, нішто ў маім жыцці не было выпадковым — і гэта першая спроба запісаць народную песню непасрэдна ад вясковай жанчыны, — таксама.

Дзве іншыя народныя песні — беларускую «Ой, там, на гары, ой, там, на крутой» і знакамітую рускую «Трансваль, Трансваль, страна моя!» — я запісаў таксама ад слабодскіх жанчын — Марылі Базыліхі (яна жыла з намі ў дзедавай хаце) і Францысі Рулькевіч. Дакладней, спачатку запомніў іх, а тады запісаў. Француся больш года назад стала ўдавою: наконт смерці яе мужа Віктара, якога немцы сілком паставілі старастам у Слабадзе, існавала нейкая цёмная гісторыя. Выходзіла, што яго расстралялі партызаны. Аднак жа праз колькі месяцаў падаўся ў лес, да народных мсціўцаў, іх васемнаццацігадовы сын, камсамолец Жэня. Сама ж яна з дзвюма дочкамі ратавалася ад фашысцкіх карнікаў гэтак жа, як і ўсе слабодцы, і цяпер жыла ў Айнаравічах у бежанцах. У хату да нас яна зайшла неяк залішне — як для вясковай жанчыны — рашуча, размашыста. Села на драўлянай самаробнай канапе, каля вакна, трохі памаўчала, а тады і кажа да мамы:

— Каця, я ведаю, што ў цябе павінна трохі быць... гэтай самай... смердзюхі... Дай во нам з Марыляй па каплі, а то нешта надта на душы мутарна...

— Ты ж ужо недзе пачаставалася! — як бы пярэчачы і папракаючы яе за гэта, адказала мама. — Я ж па табе бачу, што ты ўжо недзе паспела...

— Нясі, Кацярынка, нясі, не бойся: калі-небудзь зраблю сама — аддам з надбаўкай.

— Мне не шкода, — кажа, уздыхнуўшы, мама. — Але ж ты вып'еш, а тады зноў плакаць будзеш...

— Не буду. Пець буду. Во— з Марыляй на пару.

Мама прынесла і паставіла на стол паўбутэлькі «смердзюхі» — так у нашым баку называлі самагонку. Жанчыны выпілі і сапраўды пачалі спяваць. І пачалі з вельмі драматычнай і інтрыгоўнай для мяне песні пра нейкую невядомую краіну Трансваль, што, як і наша Беларусь, уся гарыць у агні і дзе, «под деревцем развесистым угрюмый бур сидел», «Бур» я ўспрымаў як імя ўласнае — я не ведаў, што ёсць такая народнасць «буры». Асабліва кранула і расчуліла мяне тое месца ў расказе старога бура, дзе гаварылася пра лёс меншага сына.

**И младший сын, тринадцать**
**лет,**
**Просился на войну.**
**Но я сказал, что — нет, нет,**
**нет,**
**Мальчишку не возьму.**
**Однажды при сражении**
**Разбит был наш обоз.**
**Мальчишка на позицию**
**Тайком патрон принёс...**

Седзячы за шафай, я слухаў песню, а сэрца білася гулка і выстуквала адно: «Мне таксама трынаццаты!.. Мне ж таксама трынаццаты!.. І я мог бы дапамагчы партызанам — непрыкметна прабрацца на пазіцыю, ці паднесці патроны, ці схадзіць у разведку...»

Пасля «Трансваля» Француся запела адна, і Марыля, мабыць, адчуўшы, што гэта будзе не так пяянне, як галашэнне,— сядзела моўчкі. А запела Француся песню пра голуба і галубку, якія недзе на крутой гары «гулялі, мілаваліся, шызымі крыламі абдымаліся» і якіх разбіў-разлучыў стралок: «галуба забіў, галубку зловіў, узяў пад палу, прынёс дадому». І не стрымала Француся слова — заплакала. Пяе, а слёзы коцяцца па шчоках аж да губ, і яна іх не выцірае.

**Галубка не есць, галубка**
**не п'е,**
**А ўсё на ту гору ўсё плакаць**
**ідзе.**
**— Галубка мая шызакрылая,**
**Чаму ж ты такая гаратлівая?**
**— А як жа мне жыць дый**
**не гараваць:**
**Была я ў пары, цяпер я адна...**

Якуб Колас. 1952 г.

# ДУДАР

Тром родным братом Бог даў аднакі розум, аднакія мыслі і думкі. Толькі не аднакая доля спаткала кожнага брата ў жыцці. Хоць усім братом не вельмі соладка жылося, але Меншаму Брату выпала самая горшая доля. Прысудзіла яна яму самы горшы куток, кінула між мхоў і балот. Кепска жылося Меншаму Брату. Плакаў ён, і ніхто не бачыў яго слёз, ці не хацеў бачыць. Спяваў ён і песні, доўгія, нудныя песні, песні нядолі. Гаварыў і казкі, і толькі ў казках ён бачыў сябе шчаслівым. Яго слёзы капалі разам з расой на зямлю. Грэла сонца, і слёзы, змешаныя з божай расой, падымаліся к небу і адтуль кідаліся назад на зямлю чыстымі капелькамі. І так яны вечна кружацца з зямлі на неба, з неба на зямлю. І ніколі не высыхалі вочы Меншага Брата. Таўсты высокі лес адзін толькі слухаў яго песні і сам памагаў яму спяваць сваім доўгім шумам. Выходзіў Меншы Брат у вечар на двор, браў сваю дудку, садзіўся на прызбе сваей хаты і граў. Месячык каціўся па небе, плылі белыя хмаркі. Божыя зоркі, як саромлівыя дзяўчаткі, пазіралі на зямлю праз белыя, тонкія хмаркі і слухалі Меншага Брата, як граў ён на дудцы. І ціха было на сэрцы, як ціха была сама ночка. І думкі, як тыя хмаркі, лёгка радзіліся ў сэрцы і плылі яны бог знае куды, далёка-далёка, уміралі ціха-ціха, як паволі раставалі і белыя хмаркі ў небе. Толькі пугач і сава злым крыкам сваім будзілі ад шчаслівых думак Меншага Брата. Ён прачыхаўся, як ад сну, і думкі другія, думкі нядолі, як нажом, калолі яму ў сэрца.

Ні думак, ні песень яго ніхто не знаў і не чуў, ці не хацеў знаць і чуць. Яго жальба прападала, як прападаў туман з усходам сонца, што вісеў над балотам. Разбіраў яго адзін толькі лес, і лесу адкрываў Меншы Брат свае думкі, бо людзі смяяліся з яго слоў і песень. А з лесам жылося вальней: лес не давіў яго, не гнаў, як гналі і давілі яго людзі. І Меншы Брат зрабіўся ціхі, спакойны, асцярожны і нікому не адкрываў сваей душы. Меншы Брат адзічэў. Лес і балоты адгарадзілі ад божага свету.

Прайшло многа часу.

Усе тры браты сустрэліся. Старшы Брат пазіраў смела. Ён быў у ботах, у крамных портках і кашулі, а паверх кашулі — камізэлька. Гаварыў Старшы Брат скора, мова яго была адменна, і Меншы Брат ледзьве мог разбіраць яго.

На Сярэднім Браце была высокая шапка, шырокія белыя порткі, боты. У зубах — круглая люлька на кароткім цыбуку; гаварыў ён мала.

Меншы Брат выглядаў старэйшым за іх абодвых. Барада яго была сівая, рукі дрыжалі. Сам ён быў тонкі, худы. Яму як бы брыдка было перад братамі, што на ім сівая рваная світка, круглая шапка-кучомка; на нагах лапці, а каравыя анучы абвівалі худыя ногі.

Гаварылі браты аб усім: а горкай сваей долі, а праўдзе, а жыццю.

Меншы Брат маўчаў. Яму не давалі гаварыць тэй мовай, каторай гаварыў ён сам з сабой, з сваімі думкамі, з лесам. З яго мовы смяяліся старшыя браты.

— Гавары ты так, як гавару я, — кажа Старшы Брат, — і не страхай ты мову людскую. Твая мова — нямая мова. Што сказаў ты свету на сваёй мове? Дзе песні твае? Хто чытаў твае думкі, работу твайго розуму і сэрца? Дзе песняры твае? Чым ты пахвалішся?

— Лепшай мовы я не чуў. Гавару, як знаю. Брат! Хто доўга маўчаў, таму хочацца многа гаварыць. А я маўчаў усё жыццё, і мне хочацца гаварыць; не адбірай ты ад мяне хоць гэтага права. Спытайся ў хваёвых крыжоў. Яны табе скажуць пра мае думкі. Мае думкі напісаны слязьмі, а слёзы разам з думкамі разліліся ў рэчцы. Вецер — песняр мой. Гора і боль радзілі мае песні, і слухаў іх лес. Спытайся ў леса — ён скажа пра песні мае.

Скажу табе казку. Пасадзіў пан дудара ў глыбокім склепе за каменныя сцены. Кажа яму пан: «Грай мне на дудцы, каб я чуў твае песні, і тады я пазволю табе спяваць людзям песні, дарую права расказаць свету пра думкі твае».

Праз каменныя сцены не выбілася песня дудара, і ніхто яго не пачуў. «Ты павінен маўчаць! — кажа пан дудару, — бо песня твая нічога не сказала майму сэрцу. Няхай астаюцца ў табе твае думкі і песні». І дудара з таго часу слухала пустое поле, балота і лес.

Брат! Усе мы шукалі шчасця, толькі ішлі мы не аднакімі дарогамі. Табе хоць трохі свяціла сонца, а я ішоў, як уночы. Запалім жа мы лучыны і пойдзем яшчэ шукаць долі, будзем памагаць адзін аднаму, а як заблудзіць хто з нас, падамо яму голас. Не смейцеся ж, браты, і не адбірайце ў мяне таго, што можа адабраць толькі Бог!

І слёзы блішчэлі на вачах Меншага Брата.

[1906 г.]

Публікацыя Б. Сачанкі

Нам паганятых болей
не трэба —
Будзем мы жыць без паноў.
Самі вы дбайце лепей пра
неба! —
Скажам мы так да ксяндзоў.

Хіба забудзем мы тыя межы,
Што правадзілі без нас?
Раны глыбокі, ох, яшчэ свежы!
Помсты агонь не пагас.

Нас падзялілі — хто? Чужаніцы.
Цёмных дарог махляры.
К чорту іх межы! К д'яблу
граніцы!
Нашы тут гоні, бары!

Будзем мы самі гаспадарамі,
Будзем свой скарб ратаваць!
Годзі тэй крыўды! Ў ногу
з братамі
Пойдзем наш край вызваляць.

Ох, і агорклі гэтыя кпіны!
Злучым мы ў хор галасы:
Эх, вы разлогі роднай краіны.
Нашы палеткі, лясы!

Родны вы сэрцу нашаму гмахі
Лесу, лугоў і палёў!
Досыць ўшчувалі нас паны-ляхі,
Ведаем ціск маскалёў...

Змоўкні жа, сціхні, песня
пакуты!
Заварушыся, наш край!
Люд! Вызваляйся, рві свае путы,
Новыя песні спявай!

[1921 г.]

— Вось бачыш, Француся, казала ж табе — не трэба, — журліва дакараючы, ціха прамовіла мама. — А цяпер плачаш. Не плач, не зводзь сябе марна... Яшчэ невядома, што з намі з усімі будзе...

Апошні запіс у той спеўнічак быў зроблены мной на свята Першага мая. Партызанскае камандаванне рашыла правесці ў дзень Першамая святочны мітынг у ваколіцы нашай вёскі — у лясным урочышчы Баранава. Недзе гадзіне а дванаццатай дзве роты, якія кватэравалі ў Слабадзе, чынным строем і з песняй памаршыравалі за вёску. А запявалам быў наш слабодскі хлопец Алежка Тромпель. Божа, як ён хораша пачынаў песню і як хораша спявалі партызаны! Паўзвода, яны ішлі з песняй да месца мітынгу, а мы, пераважна хлапчукі-падлеткі, дыгалі па ўзбоччы дарогі, стараючыся раўняцца з галавой калоны, і слухалі іх баявы, страявы спеў. Запявалу, яшчэ не бачачы за іншымі ў шэрагах, я пазнаў адразу ж — па голасе:

**Из востока солнце всходит,**
**Во-о-орошилов едет к на-ам!**

Яшчэ не абрывалася, не ападала ўзнятае да неба гэтае яго звонкае «ам!» — як добрая сотня густых мужчынскіх галасоў падхоплівала і двойчы паўтарала:

**Из востока солнце всходит,**
**Во-о-орошилов едет к на-ам!**

«Раз-два-тры!» — устаўляў у кароценькую паміж куплетамі паўзу бравы камандзір роты.

**Я приехал к вам проститься**
**И-и-и на фронт вас**
**провожа-ать!..**

Песня набірала разгон, разлягалася, кацілася па ўсім прасторы, праз усе пагоркі і лагчыны, да лесу і далёка за лес, і здавалася — яе нішто не стрымае, яна і ёсць тая непераможная ўсенародная сіла, пра што колькі разоў я чытаў у нашай партызанскай газеце і ў лістоўках, чуў на сходах і мітынгах.

**Всем желаю возвратиться,**
**Е-е-ще дома побыва-ать!..**

У грудзях у мяне ўсё замірала, сэрца нібы адрывалася і адлятала ўслед за галасамі туды ж — у высь, у вясновы блакіт неба, і я злаваўся на сябрука, які лез да мяне з нікчэмнаю прапановай і замінаў слухаць: «Ты чуў? Хлопцы кажуць, што гаенцы хочуць нам надаваць у Баранаве? Калі што — дык у мяне во з сабой пушчалка! А ў цябе — ёсць?..» І ён паказаў мне зробленую з тонкіх аборак «прашчу» для кідання каменя на далёкую адлегласць.

На невялікай лясной паляне любімая Алежкава песня — па камандзе «стой!» — абарвалася. Роўна праз два месяцы яна абарвецца назаўсёды: на досвітку другога ліпеня, калі партызанская брыгада «Бальшавік» вызваляла наш раённы цэнтр Лагойск, Алежка загінуў. На дзевятнаццатым годзе жыцця. У доўгачаканы дзень злучэння з часцямі Савецкай Арміі!..

Адвячоркам таго незабыўнага Першага мая нашу сям'ю напаткала бяда: асколкамі гранаты-эфкі была цяжка паранена мая старэйшая сястра Ліна. Эфка ўзарвалася на вечарынцы, пасярод хаты. Пасварыліся і счубіліся ў час танца два п'яныя партызаны — і нібыта адзін з іх вырваў у другога з гранаты кальцо. І той другі — наш слабодзец Сёмка Бязушчанка— або не здагадаўся кінуць эфку ў акно, або яна выпала ў яго з рук... У акно ён кінуўся сам і ацалеў. А гэны быў забіты на месцы. І яшчэ адзін з партызан аказаўся смяротна паранены і дацягнуў толькі да раніцы. Былі паранены і многія слабодскія дзяўчаты. Сёмку праз якой паўгадзіны партызаны злавілі, вывелі ў канец вёскі і расстралялі — без суда і следства.

Пасля мітынгу ў Баранаве я вярнуўся ў Айнаравічы, гуляў з хлопцамі недзе за вёскай, і нічога пра гэта недарэчнае, сумнае здарэнне не ведаў. Настрой у мяне выдатны, і да хаты я ішоў з песняй, якую таксама пачуў і вывучыў у тыя вясновыя дні і якая мне вельмі падабалася яшчэ і таму, што гаворка ў ёй ішла пра зусім юнага партызана (тады я не ведаў, што песня яшчэ даваенная і яе герой — змагар супраць белапольскіх акупантаў).

**Над абрывам вецер кідаецца,**
**вые,**
**А абрыў суровы — грозен**
**і высок.**
**Голавы схілілі клёны залатыя**
**І раняюць слёзы на сыры пясок.**

**А туман калматы вісне над**
**ракою.**
**Пеніцца сягоння бурная рака.**
**Хвалі ў падарунак вынеслі**
**з сабою,**
**Кінулі на бераг цела хлапчука...**

Менавіта на гэтым месцы, ледзь я пераступіў парог, маё галоснае пяянне страшным крыкам абарвала мама:

— Перастань!

Гляджу — а яна плача. І сястра Ідзея плача, і мне, спалоханаму, праз слёзы тлумачыць:

— Лінку гранатай паранілі... Можа, не выжыве.

Мама хуценька сабралася і бегма пабегла ў Янушкавічы, у партызанскі шпіталь, куды павезлі са Слабады цяжка параненых.

З Лінай усё абышлося шчасліва. Каля двух тыдняў яна праляжала ў шпіталі — больш нельга было: пачалася блакада, партызаны, усе да аднаго, рушылі ў вялікія лясы на ўсход ад Лагойшчыны, у раён возера Палік, а сем'і — і мы ў тым ліку — пашыліся ў свой балотны гушчар, у дзіч, дзе на пясчанай выспе, на Барку, яшчэ мінулай восенню былі пароблены зямлянкі. Туды, пасадзіўшы на нейкага дохлага коніка, завезлі і Ліну — сама яна хадзіць яшчэ не магла. У той дзічы мы праседзелі амаль аж да самага канца чэрвеня — аж да прыходу нашых. Калі ішло «прачэсванне» — забіраліся ў глыб лясных балот, у такую дрыгву, куды немцы проста не рашыліся палезці. Абстрэльвалі — дзе заўважалі людзей — зверху, з самалётаў. А калі блакада прайшла — мы зноў вылазілі з балаціны на Барок, да сваіх зямлянак. З жыццём на Барку ў мяне звязаны ўспамін аб яшчэ адной сустрэчы з песняй.

Зямлянкі, у якіх туліліся і партызанскія сем'і і многія іншыя жыхары навакольных вёсак, былі зроблены не ў адным месцы, а па розных краях вялікай пясчанай, парослай сасоннікам, выспы. Вечарамі я нярэдка хадзіў да суседняга — кіламетры за паўтара — лагера, у якім шмат маіх знаёмых равеснікаў, асабліва дзяўчатак. Там, каля кастра, для якога сушняку хапала, заўсёды было весела, ладзіліся забавы і гульні. Дзеці ёсць дзеці: чуць адкацілася небяспека, рэальная пагроза смерці — і яны зноў жывуць сваім. Аднойчы я ішоў туды, да вясёлага вогнішча, з намерам напалохаць гурму. Днём хтосьці ў нашым лагеры забіў гадзюку, і цяпер я нёс яе, мёртвую, з савосераспусніцкім разлікам, што падкрадуся ціхенька, нябачны ў цемры, да дзяцей і падкіну ў іх цеснае кольца гэту ядавітую рэптылію: пакуль зразумеюць, што нежывая — во будзе крыку-піску-вэрхалу!.. Во пацешуся-пасмяюся з іх дарэмнага перапалоху!..

Яшчэ здалёк — яшчэ не было відаць водбліску кастра — я пачуў, што ў лагеры пяюць. І пяюць дзеці. Чым бліжэй падыходзіў — тым выразней чулася іх прыгожае зладжанае пяянне. Нарэшце я ўбачыў іх, спевакоў — амаль адны дзяўчаткі. Глядзяць на цяпельца, якое ўжо дагарае, і пяюць. Ды так шчыра, так пранікнёна і — так балюча-журботна!

**Рада б пачакаць,**
**Каню вады даць —**
**Мае босенькія ножкі:**
**Сцюдзёна стаяць.**

Песня запыніла мяне. Забыўшыся на свой неразумны намер, я замёр на мяккай лясной сцяжыне і нерухома стаяў у мораку, аж пакуль яны не даспявалі песню да канца. Жартаваць мне раптам расхацелася, і я шпурнуў мёртвую гадзюку далёка ўбок, дзе цямнелі нізкарослыя кусты ялаўца. Ступіў яшчэ два-тры крокі — і зноў знерухомеў. Дзяўчаты пачалі новую песню. Тых, што сядзелі тварам да мяне, я пазнаў, я іх ведаў, амаль штодзень бачыўся з імі і не звяртаў на іх ніякай увагі. Цяпер у гэтым вечаровым бары каля невялічкага вогнішча, з роднай тужлівай песняй на вуснах, яны мне здаліся якімісьці інакшымі — прыгажэйшымі, ці што? Я ніколі не думаў, што яны могуць так хораша пець!..

(Заканчэнне на стар. 10—11).



© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

**Адкрыць новы сезон рыхтуецца Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР. Немалую ўвагу аддае «ЛіМ» творчым вынікам і праблемам развіцця гэтага шматаблічнага калектыву. Вось і цяпер мы пагаворым пра тое, як праходзіла параўнальна нядаўняе пашыранае пасяджэнне мастацкага савета опернай трупы. Яно адбылося напярэдадні летняй гастрольнай вандроўкі (тэатр сёлета выязджаў у Магілёў). Творчыя работнікі, адміністрацыя, крытыкі, музыказнаўцы сабраліся з мэтай абмеркаваць бягучы оперны рэпертуар, падсумаваць вынікі сезона мінулага і зрабіць высновы на будучае...**

*На музычнай сцэне*

# Быў у тэатры сход

## Згадкі перад пачаткам сезона

ВЫСТУПЛЕННЕ музыказнаўцы Г. Куляшовай было досыць працяглае: яна чытала грунтоўны даклад «Пракат опернага спектакля». Закранула, прынамсі, хранічную для тэатра праблему—старэнне спектакля.

Усё пачынаецца з дробязі — вестуна ледзьве прыкметнага старэння спектакля,— заўважыла яна. Да адной дробязі далучаецца яшчэ адна і яшчэ, як у снежным камяку, і спектакль разбураецца кампазіцыйна, разбураюцца ансамбль, тэмпарытм, спектакль губляе прэм'ерны бляск, страчвае гледачоў. Калі ўвачавідкі старэе спектакль, які стаўся адметным фактам гісторыі тэатра,— гэта страта адчувальная. У сваіх развагах Г. Куляшова вызначыла мастацкія вартасці оперных пастановак «Вайна і мір», «Казкі Гофмана», «Пікавая дама», іх месца ў рэпертуары нашага тэатра і падрабязна, спасылаючыся на канкрэтныя карціны, мізансцэны, разабрала сённяшні пастановачны і выканаўчы ўзровень кожнай з гэтых работ.

Доўгі час у ДАВТе БССР не было галоўнага рэжысёра — гэтым тлумачыліся многія творчыя і арганізацыйныя нягоды опернай трупы. Ужо год на пасадзе галоўнага — В. Цюпа. Аднак, як заўважыла прамоўца, адсутнасць галоўнага рэжысёра адчуваецца і дасюль. Безумоўна, што ўсё старэе, нішто не вечна, гаварыла Г. Куляшова. Ды адна справа, калі рэпертуар адначасова папаўняецца новымі работамі, і зусім іншая, калі не. Тады адбываецца старэнне не проста спектакляў, а старэнне рэпертуарнай афішы: сёння гэта называюць з'яваю застойнага характару.

Так, апошнім часам новых (ці адноўленых) оперных пастановак на беларускай сцэне з'яўляецца менш, чым гадоў, дапусцім, 10 таму. Сярод іх і няўдачы: «Дэман», якога шырокі глядач так і не пабачыў, «Яўгеній Анегін» з пячаткай правінцыйнасці. Не сталася безумоўнай удачай тэатра і пастаноўка «Кавалера руж», гаварыла Г. Куляшова. Яна падкрэсліла, што оперы Р. Штрауса вымагаюць ад выканаўцаў адметнага вакальнага майстэрства, якое ёсць не ва ўсіх нашых салістаў. Рэжысура ж (Б. Луцэнка) схіляецца да ілюстравання музыкі, гэта адцягвае ўвагу слухача ад музычнага развіцця. Аднак ставіць найскладаную оперу «Кавалер руж» было варта хоць бы таму, што гэта — не вядомы для нашага гледача (і для пераважнай большасці гледачоў у краіне) музычны пласт. Увогуле ж, рэпертуарныя пазіцыі беларускай опернай трупы ў пэўным сэнсе стэрэатыпныя (руская класіка, італьянская опера), амаль цалкам дублюруецца рэпертуар тэатраў краіны.

І ўжо сапраўднае зло для тэатра — маральна састарэлыя, сцёртыя ад часу пастаноўкі, вынік, на думку Г. Куляшовай, абыякавага планавання і памылак эксплуатацыі спектакляў. (Дадамо: рэжысёрскай бездагляднасці, найперш). Як на смех, выстаўляюцца на ўсеагульныя агледзіны такія спектаклі, расхістаныя мізансцэнічна, з нясвежымі дэкарацыямі і папсаваным рэквізітам, выклікаючы неўразумеласць і абурэнне прафесіяналаў і недасведчанай публікі. («Князь Ігар», «Фаўст», «Дон Жуан», «Травіята», «Трубадур», «Рыгалета», «Царская нявеста», «Русалка»). Не дапамагаюць і ўводы маладых салістаў, якія выглядаюць у старым ансамблі, як у апратцы з чужога пляча, даводзіла прамоўца.

Апошняя оперная прэм'ера сезона—«Баль-маскарад». Штотыднёвік аператыўна адгукнуўся на спектакль, змясціўшы рэцэнзію Н. Сцепанцовай «Прычына для роздуму?» («ЛіМ» за 24.06.88 г.). Засяродзіўшыся на «Балі...», Г. Куляшова падзяліла заўвагу аўтара рэцэнзіі наконт гучання аркестра ў сцэне балю (дырыжор М. Калядка). У цэлым жа вызначыла спектакль як «дыхтоўны, яркі, вывераны рэжысёрам (С. Штэйн), які адышоў ад штампаў, характэрных для пастаноўкі італьянскіх опер». Гэты спектакль, на думку прамоўцы, неабходна як мага дольш утрымаць у рэпертуары. (Дык жа ніхто і не казаў пра тое, што яго давядзецца ў хуткім часе зняць!).

У канцы даклада прагучалі спадзяванні на новыя пастаноўкі і перапрацоўку старых, аднаўленне тых спектакляў, дзе ажыццёўлены ўдалыя ўводы і ахвотна працуюць выканаўцы.

АДЗІН з такіх твораў, любімых і салістамі, і аматарамі оперы,— «Аіда». У канцы сезона Беларускае радыё наладзіла трансляцыю гэтага спектакля непасрэдна з тэатральнай залы. Ураджанні крытыка А. Саламахі, якая была сярод гледачоў той «Аіды», пэўным чынам прадоўжылі развагі Г. Куляшовай пра мастацкі ўзровень старых пастановак. З абурэннем гаварыла А. Саламаха пра незбалансаваны аркестр (дырыжыраваў Г. Праватораў), фальш салістаў, неахайнасць грыму акцёраў...

Галоўны дырыжор тэатра Г. Праватораў не аспрэчваў крытыку, гаварыў: «Гэта памылка ў планаванні і асабістая перагрузка дырыжора, якая не магла не паўплываць на ягоны стан. Фактычна не было і рэпетыцый па гэтым спектаклі. Асабліва гэта адбілася на некаторых салістах, якія не могуць абыходзіцца без рэпетыцый... Калі спектакль перанасычаны выканаўцамі, якіх вызначае недастатковы прафесіяналізм, атрымліваецца вось такі вынік. (Навошта ж было выходзіць з такім спектаклем да публікі, тым больш—пагаджацца на радыётрансляцыю?! — С. Б.). Старэнне гэтага спектакля найперш адбіваецца на гучанні хору. Вярнуць хору свежасць гучання ў спалучэнні музычных і сцэнічных задач мог бы галоўны рэжысёр Цюпа, які б даў радыкальныя сцэнічныя задачы хору. Каб жа ён літаральна паставіў харавыя сцэны, бо здымаць спектакль з рэпертуару шкада, а ён ужо дзесяткі гадоў на сцэне! «Аіда» дае падставу для слушных заўваг крытыкаў, а для тэатра — падставу падумаць, што з ёю рабіць і чым замяніць...»

Турботы пра лёс «Аіды» закончыліся самотнай, нікім не падтрыманай рэплікай з «галёркі»: «Не здымаць! Мы ўжо ўсю афішу паздымалі!»

А наступная прамоўца, Э. Алейнікава, павяла размову пра «Кавалера руж». (Яе рэцэнзія на гэты спектакль была ў «ЛіМе» за 16.10.87 г. — «І смех, і слёзы, і любоў...»).

Яна, між іншым, адзначыла, што беларускія вакалісты не падрыхтаваныя да такога матэрыялу з эстэтычных пазіцый, не разумеюць кампазітара ў кантэксце гісторыі, не перажываюць на сцэне тое, што павінны перажыць. Біць у званы трэба ў гэтым выпадку наконт «школы»: як той казаў, няма крызісу галасоў, ёсць крызіс выкладчыкаў. Скрозь чуеш нячыстае фарсіраванае спяванне, нярэдка ўжо ў сярэднім узросце вакаліст страчвае тэмбр, — ці не вынік гэта хібаў «школы»? Трэба ўзнімаць праблему захавання галасоў, звярнуцца да навукі захавання голасу і яго развіцця, калі хочам захаваць у рэпертуары Пракоф'ева, Штрауса, прыйсці да Шонберга і Берга, даводзіла Э. Алейнікава.

Ладную частку яе разваг, гэтаксама як і выступленне музыказнаўцы Н. Юўчанкі, жывіла ўсё тая ж рэцэнзія Н. Сцепанцовай на «Баль-маскарад». Прынамсі, Н. Юўчан-

# Усё пачалося з песні

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 7—9).

ДРУГІ свой рукапісны спеўнічак я пачаў запісамі папулярных песень ваеннай пары ў студзені сорак пятага і працягваў аж да лета наступнага, сорак шостага. Частка яго ацалела. На першых старонках — песні «До свиданья, города и хаты», «Синий платочек», «Священная война» і некаторыя з тых, што былі яшчэ ў першым спеўнічку. Далей ішлі «Калуга» («Дрались по-геройски, по-русски»), «Играй, мой баян», «Коса», «У речного далёкого брода», «Сядька рядом, что-то мне не спится», «Слушайте, отряды, песню фронтовую». Тут жа — вельмі папулярная ў нашай вёсцы песня пра смерць лётчыка. Яна засталася ў нас пасля таго, як у ліпені сорак чацвёртага ў Слабадзе дзён дзесяць адпачывала нейкая лётная часць. Побач з вёскай, на роўным лузе, стаялі — цэлай сямейкай — невялічкія двухмесныя самалёты, каля якіх зранку да вечара бавілі свой час усе слабодскія падшыванцы. Хадзілі — пад вясёлы рогат — чуткі, што адна са сталых дзяўчат рызыкнула пракаціцца, на пару з лётчыкам, у небе, самалёт зрабіў толькі адзін круг над вёскай, і з ёю здарыўся такі канфуз, што «больш век не захоча лётаць». Дык вось лётчыкі пакінулі нам песню, якая — дзякуючы просценькай мелодыі і такому ж немудрагелістаму сюжэту — доўга трымалася ў памяці слабодскіх дзяўчат і хлопцаў. Пазней, праз шмат гадоў я даведваюся, што яна з'яўляецца салдацкай пераробкай адной папулярнай старой песні мяшчанска-гарадскога паходжання. Дык гэта пазней, а тады... Тады яна мне неймаверна спадабалася. Трагічны расказ пра смерць лётчыка, яго развітальныя, звернутыя да родных і блізкіх, словы здаліся мне паэзіяй не абы-якой:

**И понесутся телеграммы —**
**Родных, знакомых известить,**
**Что сын ваш больше не вернется**
**В родимом доме погостить.**

**В углу заплачет мать-старушка,**
**Слезу смахнет старик-отец.**
**Лишь дорогая не узнает,**
**Какой судьбы его конец.**

**И будут карточки пылиться**
**На полках позабытых книг:**
**В знакомой форме, при петлицах,**
**Но ей уж будет не до них...**

Ёсць у гэтым спеўніку і яшчэ адна песня-пераробка — на сюжэт знакамітай «Кацюшы» Ісакоўскага. Вядома, што пераніцовак гэтага сюжэта было вельмі шмат, у тым ліку і сатырычнага характару. Якраз такая і трапіла ў мой сшытак — пра Кацюшу-здрадніцу, што прадалася нямецкім афіцэрам за буханку хлеба, «шнапс пила и ела шоколад». У нашым баку пра нешта падобнае ў паводзінах дзяўчат я нічога за ўсю вайну не пачуў. Але ўявіць такое было зусім не цяжка — пры той нянавісці і пагардзе да здраднікаў Радзімы, што вельмі востра адзывалася тады ў нашых душах. Таму бязлітасна-асуджальны пафас песні надзвычай імпанаваў нам — меншым братам воінаў-франтавікоў і партызанаў. Тым больш, што мы ўступалі ў той узрост, калі ўзаемаадносіны Яго і Яе пачынаюць усё больш цікавіць і хваляваць і ў думках ужо льга паставіць сябе на месца таго, каму гэтак подла здрадзіла Кацюша.

**Не твоя ли мучилась в Берлине,**
**Голодала младшая сестра?**
**Ты о том забыла на перине,**
**С офицером спала до утра.**

**Я приеду в город свой на танке,**
**Но, Катюша, только не к тебе,**
**А к своей любимой партизанке,**
**Боевой подруге по борьбе.**

**Так гуляй, люби своих ты немцев**
**И целуй холодные уста.**
**Всеравно тебе, моя Катюша,**
**Не минуть могилы без креста.**

Спеўнічак мой папаўняўся галоўным чынам за кошт песень, якія прывозіла з Мінска сястра Ліна — студэнтка педвучылішча. Сама яна спяваць вельмі любіла, песень ведала безліч, і я прасіў яе прадыктаваць мне тыя з іх, што асабліва былі мне даспадобы. Песні гэта былі самыя розныя: і з папулярных ваенных кінафільмаў («Шаланды, полные кефали...»), і, відаць, з вучэбнага рэпертуару будучых настаўнікаў — песні, што развучваліся на ўроках музыкі і спеваў («За свободу, угнетенный народ, становись на баррикады!»), і некаторыя ўзоры гарадскога песеннага фальклору, у тым ліку — фальклярызаваныя песні кніжнага паходжання («Как на речке, стало быть на Фонтанке, там извозчик, стало быть молодой», «Вы не вейтеся, черные кудри, над моею больной головой», «Ночами лунными с гитарой семиструнною», «Под окном черемуха колышется...») Адкуль гэтыя апошнія трапілі да сястры — я зразумеў, калі аднойчы, напрадвесні сорак шостага, начаваў у Ліны, у інтэрнаце педвучылішча (тады яшчэ — на вуліцы Фрунзе). Я ляжаў у ложку і, пры слепаватым асвятленні ад адзінай на вялізны пакой лямпачкі, чытаў жудкія апавяданні Конан-Дойля, калі ў госці да студэнтак завітала цэлая гурма гарадскіх хлопцаў — у прыкметна падагрэтым настроі і з гітарай. Вось тады і пачуў я на ўласныя вушы амаль усе гэтыя «душашчыпальныя» гарадскія рамансы і песні, якія праз Ліну трапілі ў мой спеўнічак. Трэба прызнацца, што выкананне іх пад гітару мне вельмі спадабалася, і я глядзеў на гарадскіх кавалераў з зайздрасцю, і думаў: можа быць, калі-небудзь займею такую гітару і я...

Цікавасць і цяга да фальклорнай песні былі засведчаны і ў спеўнічку і такімі шэдэўрамі народнай лірыкі, як «Пазарасталі сцежкі-дарожкі» і «Ой за гаем зеляненькім брала ўдова лён драбненькі». Хто гэтую апошнюю прынёс у Слабаду — не ведаю, але больш папулярнай, чым яна ў тыя гады ў нашай вёсцы, мабыць, не было: без яе не абыходзілася ні адно застолле. Як і ўсе народныя ўкраінскія песні, спявалася яна ў нас, канешне ж, у беларускім вымаўленні — хіба што асобныя словы выдавалі яе нетутэйшае паходжанне.

## Сто радкоў пасля прэм'еры

# ДЭБЮТ У ПАНТАМІМЕ

«Сабор Парыжскай маткі боскай» паводле В Гюго ў Маладзёжным тэатры БССР. Рэжысёр-пастаноўшчык — К. Адамайціс. Мастак — З. Марголін. Музычнае афармленне А. Раманаваса. 26 жніўня 1988 года.

**Гэты спектакль — другая на Беларусі спроба ўвасобіць пантаміму сіламі драматычных артыстаў. Яна таксама належыць літоўскаму рэжысёру К. Адамайцісу. Асноўная тэма «Сабора...» — каханне, якое асэнсоўваецца праз характары персанажаў і перапляценне іх лёсаў. Складанасць чалавечых узаемасувязей вызначыла сцэнаграфічнае вырашэнне спектакля: сцэнічная прастора запоўнена стылізаваным павуціннем. Яно абжыта персанажамі — галоўныя з іх, быццам заблытаўшыся, вісяць на павуцінні. Кожны з іх у свой час парушыць статычную замалёўку і ўключыцца ў дзеянне, каб распавесці пра свой лёс.**

**Лёс (у спектаклі ён увасоблены праз жаночы вобраз, які стварае А. Акулёнак) пануе над усім і ўсімі. Ён дасць Маці (Н. Падвіцкая) радасць мацярынства, а потым разам з дзіцем адбярэ і розум. Паводзіны Маці дэталёва распрацаваны Н. Падвіцкай. Ёй адведзена невялічкая сцэнічная прастора на авансцэне, дзе яна забаўляецца дзіцячым чаравікам, сузіраючы натоўп у саборы... Маці ўжо не баіцца бязлітаснага Лёсу.**

**А Лёс тым часам «пашкадуе» другога адрынутага — Квазімоду (па-мастацку выразная сцэна, калі ён адчуе ў сабе нараджэнне новага, незнаёмага пачуцця — каханне да Эсмеральды). Жорсткасць людзей яго не здзіўляе, пачуцці людзей яго не трывожаць. Сляпая адданасць свайму выхавацелю Клоду Фрало ды яшчэ любоў да званоў — адзінае, чым жыве Квазімода.**

**Пластычнай мовай пантамімы страсна гаворыць Эсмеральда В. Ліхадзей. Адзінаму парыванню падпарадкавана ўся яе істота: рухі лёгкія, вытанчаныя, яе дуэт з Фебам (І. Фільчанкоў) мае яркую лірычную афарбоўку. Пануе яна, прыгажуня, у якой абудзілася жанчына. (У дуэце другіх выканаўцаў, А. Унукавай і В. Ніціценкі, першынствуе Феб, для якога каханне — чарговы капрыз).**

**У рэжысёрскім вырашэнні спектакля пераважае прастата, натуральнасць сцэнічных формаў. Большасць сцэн — метафарычная. На працягу ўсяго спектакля дзейнічае натоўп. Гараджане то імчацца ў шалёным рытме на карнавал, то раптам «ператвараюцца» ў нерухомыя калоны сабора, якія становяцца сховішчам Эсмеральды. Артысты А. Хрысціч, І. Сачак, С. Ждан, У. Емяльянаў, А. Авернаў і іншыя ствараюць збіральны вобраз шматаблічнага натоўпу. Ледзь прыкметным намёкам, эскізна кожны з выканаўцаў перадае стаўленне свайго персанажа да падзей. Бадай толькі Э. Сакура (гараджанка-Паклёпніца) крыху перабольшвае ў шаржыраванні сваёй гераіні.**

**Асобныя сцэны, як, напрыклад, купанне дзяўчат і Эсмеральды — ілюстрацыйныя. У іх пастаноўшчык імкнуўся апаэтызаваць хараство жаночага цела, але згаданы эпізод купання выпадае з кантэксту пастаноўкі, успрымаецца прыгожым дэкорам. Некалькі прасталінейна выглядае і заключная сцэна спектакля, калі ўсе ўдзельнікі выходзяць у сучасным адзенні (падкрэсліваюць, што падобныя каханні і драмы могуць надарыцца ў любы час?).**

**Шмат для каго з выканаўцаў, сёлетніх выпускнікоў БДТМІ, «Сабор Парыжскай маткі боскай» стаў дэбютам. Маладыя акцёры выявілі неблагую пластычную падрыхтаванасць, музычнасць, памкнуліся знайсці для характарыстыкі сваіх персанажаў адметныя рысы.**

**Валянціна ШЫМАНОВІЧ.**

**У дарогу мяне паклікала падзея, у якой прымаюць удзел тысячы, нават сотні тысяч людзей — III Усесаюзны фестываль народнай творчасці. Скажу адразу: я невыпадкова паехаў у старажытны Слонім. Здарылася так, што колькі год назад мне давялося пaглядзець неўміручую Купалаву «Паўлінку» ў выкананні артыстаў мясцовага народнага тэатра. Найперш што ўразіла — вялізная зала раённага Дома культуры была паўнюткая людзей.**

# Спаткансе з Опернай вуліцай

Гледачы сабраліся самага рознага ўзросту. Нямала я ўбачыў і такіх, што сядзелі на каленях у бацькоў і шаргацелі паперкамі ад цукерак. Міжволі падумалася пра кірмашовае відовішча, дзе ўся мастацкасць выяўляецца ў тым, каб пасмяшыць аматараў уволю парагатаць. Але рассунулася заслона — пачаўся спектакль... Дэкарацыі сціплыя, нават занадта сціплыя. Артысты з першых рэплік, падалося, гавораць як не сваімі, нейкімі ненатуральна напятымі галасамі. Паўлінка... Пра Паўлінку лепей памаўчу. Каб іграць гэтую ролю, трэба мець не абы-якую адвагу. Праўдзе кажучы, я адным вокам глядзеў на сцэну, а другім сачыў за сваімі суседзямі па радзе. Мне хацелася зразумець, ці адчуваюць яны гэтую напятасць на сцэне, якую адчуваю я? Яшчэ праз некалькі хвілін мне раптам падумалася (гэта я адчуў па настрою тых, хто сядзеў побач са мною), што трэба хутчэй гаварыць не пра напятасць, а пра знітаванасць сцэны з глядзельнай залай. Я не заўважыў, як самога мяне захапіў спектакль. Захапіў праўдзівасцю характараў, характараў не проста добра зробленых сцэнічна, а вылепленых падгледжанымі ў жыцці, каларытнымі, незацяганымі жэстамі, інтанацый, самою манераю трымацца, дзе і не пахла таннаю, нікому не патрэбнаю артыстычнасцю, на якую так часта збіваюцца многія самадзейныя калектывы.

У той жа вечар я сустрэўся з рэжысёрам, заслужаным работнікам культуры рэспублікі Мікалаем Фёдаравічам Варвашэвічам, а таксама з артыстамі тэатра, якія не паспелі яшчэ аддыхацца пасля сцэны. Завязалася цікавая, нязмушаная гутарка. Найбольш, вядома, гаварылі пра Тэатр — пра яго задачы, праблемы, поспехі і няўдачы. Ніхто з прысутных не хаваў свае радасці ад далучанасці да яе вялікасці Сцэны, але разам з тым у некаторых адказах я адчуў непрыхаваную незадаволенасць тым становішчам, у якім знаходзіўся тады калектыў. І менш за ўсё гэта тычылася творчых пытанняў ці нейкіх непаразуменняў паміж самімі артыстамі. Былі выказаны нараканні на абыякавасць мясцовых улад да тэатра, нежаданне дапамагаць канкрэтнаю справаю, калі ў тым ёсць патрэба. Адным словам, я пачуў тое, пра што пішуць у розных рэдакцыі многія ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці. Пішуць з горыччу і болем, бо нават самыя дробныя пытанні на месцы часам вырашаюцца дзесяцігоддзямі. У рэшце рэшт іх голас быў пачуты ў Маскве, з'явіліся сур'ёзныя партыйныя і дзяржаўныя пастановы, а ў мой блакнот трапіла лічба, якую я пачуў пад час прагляду адной з тэлеперадач: на развіццё народнай творчасці ў краіне вырашана выдзеліць мільярды рублёў.

Я ехаў у Слонім і быў упэўнены, што цяпер наша гаворка, калі яна адбудзецца, пойдзе трошкі па-іншаму, больш аптымістычна. А калі прыехаў у горад над Шчараю, то даведаўся, што жыццё ўжо даўно абагнала і высокія пастановы і мае ўяўленне пра тое, аб чым мы будзем гаварыць. А справа ў тым, што ў кастрычніку 1987 года спыніў сваё існаванне вядомы ў рэспубліцы Слонімскі народны тэатр, на базе гэтага калектыву ў горадзе сёння працуе эксперыментальны тэатр-студыя. Зазначу: адзін з першых у Беларусі.

**— Каб зрабіць гэты рашучы і адказны крок, нам давялося 10 месяцаў абіваць парогі розных кабінетаў раённага маштабу,— выслухаўшы мае віншаванні, горка ўсміхнуўся Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч. — Некаторыя таварышы ад культуры, праўда, прыбягалі і да нас на рэпетыцыі, чаго раней ніколі не здаралася. Вядома, імі кіравала не цікавасць да нашага мастацтва. Мэтаю іхніх візітаў было адно: адгаварыць нас ад утварэння прафесійнага калектыву, запалохаць будучымі цяжкасцямі. Да іх не даходзіла дый цяпер не даходзіць, што мы ўжо даўно выраслі з тых пялюшак, у якіх нас яны бачаць ці хочуць бачыць. І што дзіўна: гэтыя самыя таварышы праз гадзіну-другую ўжо выступаюць з трыбуны, дзе гавораць пра перабудову, заклікаюць да новага мыслення, да рашучых учынкаў. Каб не Гродзенскае абласное ўпраўленне культуры і Міністэрства культуры рэспублікі, якія нас рашуча падтрымалі і падтрымлівалі на працягу ўсіх гэтых 10 месяцаў, мы і дагэтуль бегалі б па кабінетах...**

Чаму так адчайна працівяцца на перыферыі ўсяму новаму, нязвыкламу? Мы доўга размаўлялі на гэтую тэму і сышліся на тым, што боязь перамен можна вытлумачыць адсутнасцю шырыні погляду на сённяшнія з'явы ў нашым грамадстве нізкаю духоўнаю культураю тых, хто прымае рашэнні на месцах, нежаданнем іх браць адказнасць на сябе, працаваць па-новаму — сапраўды ініцыятыўна, творча, з улікам мясцовых фактараў і запатрабаванняў.

Папрасіў Мікалая Фёдаравіча падрабязней расказаць пра першыя крокі новага калектыву, пра тыя мастацкія задачы, якія ён ставіць перад сабою.

— Калі мы вырашылі пайсці на эксперымент, то адважыліся абысціся без усялякіх датацый, дзяржаўных пазык. Праўда, на агульным сходзе цвёрда пастанавілі: пакуль не станем на ногі, будзем працаваць без прэмій і даплат. І вось вынік дзейнасці студыі за першае паўгоддзе: пры плане зарабіць 15 тысяч рублёў мы зарабілі 18 і пайшлі ў адпачынак з добрым фінансавым задзелам. Аднак ён менш за ўсё прызначаны, як кажуць, на чорны дзень. Рашэннем гарадскога выканкома Савета народных дэпутатаў нам перададзена частка памяшкання раённага Дома культуры. Увесь яго рамонт і пераабсталяванне, што каштуе прыблізна 10 тысяч рублёў, ляжыць на нашых плячах.

— У вас адна крыніца даходу — касавы збор ад паказаных спектакляў. Творчае жыццё калектыву моцна, як кажуць, на вузел, звязана з яго фінансавым становішчам. Тут мне бачыцца сур'ёзная пагроза, бо можна пачаць зарабляць грошы і зусім страціць свой твар...

— Такі прыклад...—спакойна, з усмешкай адказаў Варвашэвіч. — Калі раней, будучы народным тэатрам, мы давалі 15—20 спектакляў у год, то цяпер толькі за паўгоддзе мы 74 разы выходзілі на сцэну. І тут, як ні дзіўна, нам удалося забіць двух зайцоў адразу: забяспечыць фінансавую самастойнасць і адначасова рэзка павысіць прафесійнае майстэрства акцёра. Бо самая лепшая наша школа — гэта сама сцэна. Не падумайце, што я адмаўляю рэпетыцыі, без іх наогул няма чаго рабіць у тэатры. І яшчэ пра адно... Нашы акцёры, якія прайшлі вялікую школу народнага тэатра (а сярод іх ёсць і такія, што ўжо не адно дзесяцігоддзе на сцэне), — гэта прафесіяналы. Сцвярджаю з усёю адказнасцю. Мы цяпер працуем так: у штаце — 9 чалавек. У асноўным, вядома, акцёры, якія скончылі інстытут культуры ці культурна-асветнае вучылішча. Астатнія нашы людзі па-ранейшаму працуюць на розных прадпрыемствах горада. Мы іх уважліва тарыфікавалі, і яны атрымліваюць даплату, калі прымаюць удзел у тым ці іншым спектаклі.

— Хацелася б пачуць пра рэпертуар тэатра-студыі, а таксама пра тое, што думаеце паставіць у бліжэйшыя месяцы... Бо п'есы, якія з'яўляюцца на афішы, лепей за ўсялякія словы гавораць, куды ідзе тэатр.

— Дагэтуль, можна сказаць, мы жылі старым багажом, — прызнаўся Варвашэвіч. — Ішлі да гледача з тым, што не састарэла, што не сорамна паказаць і сёння: Купалаву «Паўлінку», «Уладу цемры» Талстога... Вясною паставілі для дзяцей «Папялушку» Габэ. Толькі ў Слоніме паказалі спектакль 16 разоў. Працавалі на стацыянары, білеты прадавалі толькі праз касу. Зала была амаль заўсёды поўная, што нас асабліва парадавала: значыць ёсць у нашым родным горадзе глядач. А выязджалі часцей за ўсё са спектаклем «Халімон камандуе парадам» па п'есе маладога драматурга Уладзіміра Сауліча, які жыве і працуе на Віцебшчыне. П'еса далёка не бездакорная, але ёсць у ёй жывінка, сапраўды народны гумар, што, на маю думку, дае ёй права на сцэнічнае жыццё. І акрамя таго: дзе пачынаць маладым драматургам, як не ў тэатрах-студыях? Мы і надалей думаем іх падтрымліваць, бо такое сулрацоўніцтва толькі на карысць нашай нацыянальнай культуры, беларускаму сцэнічнаму мастацтву. У жніўні—верасні пачнём працаваць над п'есай Уладзіміра Катэнкі «Жалезная заслона», дзе вельмі з'едліва высмеяна недалёкая амбіцыйнасць, дурнаватая пыхлівасць мясцовых начальнічкаў, якія разумеюць перабудову як чарговы палітычны лозунг, папяровую кампанію. А ў канцы года мяркуем паставіць п'есу Вольгі Іпатавай «Добрая памяць па сходнай цане». Праблемы, якія там паднімаюцца, нам блізкія. Я упэўнены: тэатр, які не ставіць нацыянальную драматургію, бесперспектыўны тэатр. Скажыце, дзе вы бачылі дрэва без каранёў? Я дык толькі на пілараме ці дрывотні. А тэатр — гэта дрэва з жывымі каранямі і жывою зялёнаю кронаю, і жывіцца яно найперш з той зямлі, на якой расце.

Слухаючы Мікалая Фёдаравіча, я згадваў добрыя намеры стварыць у рэспубліцы некалькі новых тэатраў. Нават называліся гарады-кандыдаты, дзе даўно наспела такая патрэба — Полацк, Баранавічы, Мазыр, Пінск... Адным словам, буйныя прамысловыя цэнтры, з насельніцтвам каля 100 тысяч чалавек. Арыфметыка тут, як кажуць, простая. І, на жаль, вельмі недальнабачная. Па прыкладах далёка не трэба хадзіць — гэта паўпустыя залы некаторых нашых абласных тэатраў. Вось ужо дзе сумнае відовішча! І п'еса стр-р-рашна сучасная, і на рускай мове, а гледачоў у мяккіх крэслах меней, чым акцёраў на сцэне. Няўжо гэта праўда, што ў Літве ёсць нейкі Панявежыс, куды едуць аматары тэатра ажно з Ленінграда?..

**— Тэатр — вельмі складаны арганізм,— адказаў, выслухаўшы мае развагі, Варвашэвіч. — Вядома, ён можа ўзнікнуць і па загаду, але яшчэ лепш, калі ён нараджаецца сам, як кажуць, знізу, маючы пад сабою пэўны фундамент. З чаго складаецца гэты фундамент? Найперш з культурнага і псіхалагічнага мікраклімату, з тых сцэнічных традыцый, якія існуюць у горадзе... Усё гэта ў нас, у Слоніме, ёсць. Успомніце знакаміты Слонімскі тэатр Міхала Казіміра Агінскага — дзядзькі аўтара вядомага паланеза «Развітанне з радзімай», значнага палітычнага дзеяча, аднаго з карэспандэнтаў французскай «Энцыклапедыі», адукаванага мецэната. На слонімскай сцэне ў той час ставіліся оперы, камедыі і трагедыі на французскай, італьянскай і польскай мовах, толькі нотная камора тэатра, як сведчаць мастацтвазнаўцы, налічвала 60 лібрэта, 18 балетаў, 3 музычныя камедыі, 253 сімфоніі і звыш 400 іншых музычных твораў... Паверце, гэта не проста лічбы, гэта сама культура, якою дыхае наша зямля. Нам хочацца адрадзіць былую тэатральную славу нашага горада, мы нават бачым у гэтым свой абавязак, але адных нашых высілкаў тут, зразумела, недастаткова. У чым асабіста мне, як рэжысёру, бачыцца выхад? Працаваць. Тварыць. І выхоўваць. Выхоўваць на лепшых узорах драматургіі, выхоўваць праўдаю, выхоўваць памяццю і, вядома, родным словам. Я веру, што такая сяўба абавязкова дасць умалотны плён.**

Мы развіталіся з Мікалаем Фёдаравічам, і ў мяне застаўся яшчэ час паблукаць па знаёмых з дзяцінства слонімскіх вуліцах і вулачках, пастаяць на мосце, перакінутым праз імклівы, як выпушчаная страла, канал Агінскага. Быў высокі празрысты дзень, хлапчукі ў байдарках адчайна веславалі насупраць імклівай плыні, а перад імі ўсміхалася ў вадзе сонца. Потым я запыніў двух немаладых ужо кабет і папрасіў падказаць мне, як знайсці вуліцу Оперную. Яны паціснулі плячыма, сказалі, што такой у Слоніме няма, ні ва ўсякім разе не чулі. Я падзякаваў і пайшоў на вуліцу... Оперную, правільней — былую Оперную, што знаходзілася адсюль за метраў сто. Я ішоў родным горадам і думаў пра тое, што назвы мяняюцца, а вуліцы застаюцца. І высокае, народжанае сэрцам мастацтва таксама застаецца.

**Уладзімір ЯГОЎДЗІК.**
Слонім—Мінск.

што яны былі расстраляны без суда, кажучы мовай сталіністаў — «ликвидированы».

Т. В. Матусевіч згадвае такі выпадак, як аднойчы, калі яшчэ не было плота на Бродзе, а ўжо стралялі, ляснік Кароль Кананові выявіў у лесе засыпаныя ямы, утыканыя сасонкамі, а побач у развілцы забытую сялянскую торбачку з прыпасамі (кілбаса, хлеб і т. п.). Нават яшчэ і прагаладацца не паспеў чалавек, як трапіў пад расстрэл.

**У рэштках пахавальных пластоў, якія засталіся на дне магіл пасля эксгумацыі 40-х гадоў, выяўлена розная колькасць пахаваных. Найменш у магіле № 3 (31 нябожчык, калі лічыць па чарапах) і найбольш у пахаванні № 5 — 87 чарапоў, але 107 нябожчыкаў, падлічаных па парах бедраных касцей. (Несупадзенне колькасці чарапоў і пар бедраных касцей — вынік даўняй эксгумацыі). Зрабіўшы абмеры і падсумаваўшы ўсе дадзеныя, можна прыпушчальна вылічыць першапачатковую колькасць пахаваных у даследаваных магілах. Яна вагаецца ад 150 у «зімовай» магіле № 1 да 260 у магіле № 5. Калі ўзяць сярэднюю лічбу 200 нябожчыкаў у магіле і зрабіць простае памнажэнне на колькасць выяўленых сёння пахаванняў (510), то атрымаем 102 тысячы чалавек. Аднак сапраўдная лічба пахаваных, відаць, большая, бо існуе шмат магіл большых па памерах за даследаваныя намі, а некаторыя пахаванні ўяўляюць яміны даўжынёй да 10 м па большым баку. У такіх магілах маглі быць пахаваны тысячы забітых. Акрамя таго, каля сотні (калі не больш) магільных западзін было засыпана і потым знівеліравана бульдозерам пад час пракладкі газатрасы і высечкі лесу вакол яе ў сакавіку—маі 1988 г. Мноства магіл знікла, калі пракладвалі кальцавую дарогу ў канцы 1950-х — пач. 1960-х гг. і, магчыма, у 1940-х гадах пад час высечак, траляванння і падсадак лесу на гэтым месцы; не ўлічаны пахаванні на поўдзень ад кальцавой дарогі, там, дзе была паўднёвая ўскраіна тэрыторыі расстрэлаў. Рэальная колькасць пахаванняў у Курапатах магла сягаць 900, а можа, і больш, прытым аб памерах знішчаных і засыпаных пахаванняў мы можам меркаваць цяпер толькі па велічыні існуючых магіл.**

Што мяне больш за ўсё ўразіла не як даследчыка, а як чалавека ў час раскопак — гэта вялікая колькасць пахаваных жанчын. Жаночыя чарапы і рэчы знойдзены ва ўсіх пахаваннях. У рэштках пахавальнага пласта раскопа № 6, напрыклад, засталося ўсяго 35 чарапоў. 10 з іх, найбольш ацалелых, адабраны для экспертызы. З гэтых 10-ці—8 жаночыя. Адкрыццё яшчэ раз сведчыць аб тым, што тады, у 30-я гг., адбываўся масавы тэрор супраць народа.

Другое — суб'ектыўныя адчуванні. Карціны дзяцінства, 40—50-я гады, яркія вобразы і прадметы, што адкладаліся ў памяці колерна і выразна і ўспамінаюцца потым, як ружовыя сны. Рэзка, як цяпер, памятаю дэталі быту роднага дому—лыжачку, якой еў, белы фарфоравы сервіз з «залатымі карункамі» па краях, кубачак з надпісам «Warszawa», ярка-сінюю эмаліраваную місачку з белым малюнкам чайніка на донцы і літарамі «20 см». Я нават «гісторыю» яе памятаю. «А дзе гэта сіняя місачка?»— Чую голас бабулі...

Раскоп № 8. Асцярожна выбіраю пясок вакол эмаліраванай місачкі, што ляжыць на тазавых касцях шкілета. Зараз перавярну, зірну, якая маркіроўка і пастаўлю назад: «...Яркая, сіняя эмаль і белы чайнік на донцы... і літары—«20 см»... І тут я пачуў, як ціха навокал стала, як сосны шумяць над магілай...

АНАЛІЗУЮЧЫ вынікі раскопак у Курапатах, я звярнуў увагу на дакладнае супадзенне шмат якіх звестак з апавяданняў людзей, сведкаў расстрэлаў, і фактаў, выяўленых у час эксгумацыі. Такое супадзенне якраз і характэрнае для непасрэднага прамога сведчання, дзе яшчэ няма фальклcarызацыі падзей у народнай свядомасці. Раскопкі пацвердзілі такім чынам не толькі праўдзівасць саміх сведчанняў, але і правільнасць методыкі нашага, зробленага з Я. Шмыгалёвым, апытання відавочцаў. З амаль 170 вядомых цяпер сведак мы апыталі некалькі дзесяткаў. Класіфікацыя адказаў і сумiраванне высноў прыводзяць у такім выпадку да аднолькавага вываду, што і пры апытанні сотняў сведкаў.. (Паколькі ў аснове іх назіранняў адназначная, храналагічна расцягнутая і шматпаўтараемая з'ява). Аднак крымінальнае следства ставіць больш канкрэтныя задачы. Таму будуць апытаны ўсе сведкі і відавочцы.

**Аналіз звестак прыводзіць яшчэ і да думкі, што ў Курапатах забівалі спецыяльныя каманды, сфарміраваныя загадам, але былі, магчыма, і добраахвотнікі, што імкнуліся зарабіць ці проста «развеяцца» ў прыемным для іх занятку. Карціну забойства можна часткова ўявіць ужо на падставе раскопак. Але дадзім слова відавочцу.**

Вольга Цімафееўна Бароўская з Цны (1927 года нараджэння) расказвае, што калі ёй было 11 гадкоў, суседскі старэйшы за яе хлопчык узяўся завесці меншых дзяцей у «вялікія ягады». Сабралася іх шмат—10-11 дзяўчатак—і пайшлі на Брод. Пералезлі ў нару пад плотам і давай збіраць. Праўда, ягадаў там было шмат. Дзеці цьмяна ўяўлялі, куды іх завёў старэйшы хлопчык. Было каля 4-х гадзін дня, як загулі машыны. «Атас! Ратуйся! Дзеўкі, ходу!» — закрычаў дзявочы камандзір — і ўсе сыпанулі, як гарох, да нары пад плотам. Пакуль тоўпіліся і пералазілі, расчынілася брама і ўехала ў яе легкавая «эмка», а за ёю цугам тры «чорныя вораны» і з тарахценнем і выццём пруць проста на дзяўчынку, якая засталася ля нары апошняй. Вось ужо побач. І такі страх апанаваў яе, што кінулася на зямлю і схавалася пад густую елачку. І тады ўбачыла, што тут нейкі пясок і яна блізка гэтага пяску. «Эмка» пад'ехала сюды і выйшлі з яе чатырох мужчын.

Пытанне: «Як былі адзеты?»—«У ваеннае. Гімнасцёркі і боты, галіфэ». «Якога колеру галіфэ?»—«Добра не памятаю. Гімнасцёрка зашчытная, здаецца, і галіфэ такія. І ўсе ў рамянях, накрыж апяразаныя, як гэта называецца... партупея, ці што?» «А планшэткі, такія палявыя сумкі на іх былі?» «Былі на ўсіх». І пісталеты на поясе. На галаве круглыя фуражкі, падобныя, як цяпер».

«Ваенныя з «эмкі» падышлі да ямы,— расказвае далей Вольга Цімафееўна,— (вось ад чаго пясок, думаю, тут жа яма выкапаная) і паглядзелі ў яе. У гэты час «вораны» развярнуліся і сталі ў рад. Адзін падышоў, адшчапіў будку і давай выводзіць адтуль людзей са звязанымі рукамі. Я думаю, што гэта яны тут будуць рабіць? Аднаго як развязалі, дык ён адразу на калені ўпаў, рукі склаў і як залямантуе: «А людцы мае, а Божа ж мой, а за што ж мяне, скажэце!? А ў чым жа я вінаваты?!»

Пытанне: «На якой мове крычаў, на беларускай ці рускай?» «Гаварыў так, як мы ў Цне, па-беларуску. Гляджу, аж яны іх да ямы падвялі і з наганаў у патыліцу «шпок-шпок-шпок»... І людзі ў яму падаюць, падаюць. Я ажно вочы заплюшчыла. Такі жах мяне апанаваў. Я ж ніколі не думала, што людзей могуць забіваць. Так было страшна, што я проста губляла свядомасць, млела, мяне трэсла. А яны ўсё страляюць, выводзяць і страляюць. Засталіся два чалавекі. Вымаляюцца. Яны ім рыдлёўкі ў рукі— засыпайце. Пазасыпалі. А тады яны і гэтых... застрэлілі. Потым ужо самі ўзялі ў рукі рыдлёвачкі і іх прысыпалі трохі».

Пытанне: «Ці былі між людзей жанчыны?»—«Былі, бачыла, былі. І бацька мой казаў, а ён часта сюды зазіраў, што ў пяску на ямах жаночыя грабушкі валяліся». «Як былі адзетыя гэтыя людзі, па-гарадскому ці па-вясковаму?»—«Цяжка сказаць, неяк і не памятаю; проста адзетыя». «Па колькі выводзілі чалавек з машыны?» — «Выводзілі партыямі па 6-8 чалавек. Рукі звязаныя назад. А перад ямай, перш чым забіць,—развязвалі». «А колькі партый выводзілі з адной машыны?» — «Добра не памятаю: можа, па дзве». «Што яны адказвалі на лямант людзей, на іх пытанні?»—«А нічога не адказвалі. Ніякіх размоў. Людзі крычалі, прасіліся, а яны сваю справу рабілі. Толькі: «Становись! Становись! Становись!» «Становись» — і ўсё». «І ніхто не спрабаваў вырвацца, супраціўляцца, уцячы?» — «Не, ніхто. А куды ты ўцячэш? Наперадзе яма, а ззаду яны са зброяй. Куды ўцячэш? У яму? Яны і жывога цябе засыплюць. Так і было. Як вечарам настраляюць, то на раніцы зямля дыхае. Бацька не раз бачыў, як зямля варушылася, настаяшча дыхала. Ён надта гэта ўсё браў да сэрца і перажываў. Казаў: «Божа, што творыцца—зямля дыша. Бывала, прыйдзе вечарам і кажа маме: маці, устань. Ты ж выйдзі, паслухай, як людзі плачуць. Паслухай, як крычаць. Мама выйдзе—і мы, дзеці, бяжым за ёй, і мы чуем тыя крыкі. Просяцца людзі: спасіце, за што, я не павінна — калі жанчына; мужчына — за што мяне, я не ў чым не вінаваты, за што мяне, скажыце, хоць бы я ведаў віну, за што мяне? Дык, ведаеце, і мы наплачамся разам. Мы думалі, што там мучылі іх». (Дарэчы, тое, што людзі дапытваліся сваёй віны, сведчыць пра тое, што іх забівалі без суда. — **З. П.**).

Пытанне: «Расстрэльвалі ўсе ўчатырох ці як?»—«Не, удвух. Двое з наганамі стаялі па баках ямы «на чаку», а двое падводзілі і стралялі». «Скончылі страляць—што потым? Пра што яны гаварылі?»—«Нічога не гаварылі. Пазачынялі гэтыя «крумкачы», адправілі, селі ў «эмку» і следам паехалі. Выскачыла я адтуль, паляцела ў жыта, заблудзілася, наплакалася, да хаты не магла трапіць, нешта са мной сталася. Потым па начах усхоплівалася, крычала. Колькі мяне мама пацягала па тых бабках, знахарках. Я і цяпер, як успомню тое, мяне агортвае жах, дзікі жах...»

ЗАЗВАНІЎ тэлефон. Жаночы голас прасіў аб спатканні і душыўся ад плачу. Забілі бацькоў... тату і маму... у тым лесе..

Успамінае мінчанка Галіна Сцяпанаўна Жукоўская (па мужу Сідзякіна, 1924 г. нарадж.). Бацька яе Сцяпан Іванавіч нарадзіўся і жыў да 1932 года ў Цне. Потым пабудаваў хату на вуліцы Цнянскай у Мінску і пераехаў з сям'ёй у горад. Меў эканамічную адукацыю, працаваў планавіком па сацыяльнаму забеспячэнню ў Доме ўрада. Маці—Соф'я Адамаўна Саковіч — хатняя гаспадыня, абсалютна непісьменная, не магла распісацца. 31 кастрычніка 1937 года ў тры гадзіны ночы загула машына, спынілася і ў дом уваліліся энкавэдзісты. «Тады людзей забіралі па начах, — кажа Галіна Сцяпанаўна,—і ўсе слухалі, ці не гудзе машына, былі нагатове». І вось загула... Перапаралі хату, без панятых, без прад'яўлення абвінавачванняў ці якіх-небудзь дакументаў, нічога не тлумачачы. Забралі пашпарты, усе фатаграфіі і сказалі збірацца. «Мама пайшла ў тапачках, хоць была ўжо халодная восень»,—успамінае Галіна Сцяпанаўна. Ёй было тады 13 гадоў. У тую ноч яна асірацела. Прыйшлі, забралі і павялі навек. Ніякіх тлумачэнняў і ніякіх звестак, толькі праклящце члена сям'і ворага народа ўпала на галаву.

Назаўтра кінулася ў НКУС. Масы людзей. Доўгія чэргі да следчых стаяць па некалькі сутак. Начавала ў калідорах у чарзе, каб потым пачуць дзяжурны адказ: высланы на 10 гадоў без права перапіскі. Хадзіла і выстойвала тройчы. Апаратчык нават у спіскі не глядзеў, адказваў як заведзены ўсім адно і тое ж. Яны спадзяваліся, не ведаючы, што іхніх блізкіх і родных ужо расстралялі.

По звестках, атрыманых мною ад сведкаў, расстрэльвалі ў Курапатах спецыяльныя каманды. У іх складзе былі, па словах Галіны Сцяпанаўны, і свае, мясцовыя. Адзін з іх нарадзіўся і жыў у Цне. (Паколькі вядзецца следства, прозвішча не называю. Пазначым яго крыптанімам «Н»). Працаваў ахоўнікам у НКУС у Мінску. Заўсёды хадзіў на працу па Цнянскай, паскрыпваючы партупеяй. Спатыкаючы маленькую Галю, глядзеў на яе з лютай злосцю. Сваіх, цнянскіх ён ведаў. У вёсцы не раз выхваляўся, што Жукоўскіх ён «сам стрелял» на Бродзе. Пахваляцца забойствамі «ворагаў народа» (хоць гэта было і забойства ў патыліцу) лічылася за гонар. Некаторыя дзяўчаты імкнуліся выйсці замуж за энкавэдзістаў... «Рожа, грубая рожа, — успамінае пра «героя» Галіна Сцяпанаўна, — не твар, а нейкая доўгая, нялюдская фізіяномія. У 1960-х гадах я яго хацела знайсці, думала, што ён жывы яшчэ. Здаецца б, я яго разарвала за маіх бацькоў».

Пытанне: «Ён жыве ці памёр?» — «Памёр у 1954 годзе... А колькі нацярпелася паніжэнняў, голаду. На працу нідзе не магла ўладкавацца. У 1947 годзе прынялі машыністкай у ваенную часць. Напісала, што бацькі памерлі. Выклікаюць у контрразведку. Сядзіць такі рыжы хам, фізіяномія чырвоная: Где твои родители, ё. т. м.? — І пісталет на стол. Гэта вы мне скажыце, дзе мае бацькі,— адказваю. — Што вы мяне пытаеце? Дзе вы іх падзелі? — Иди! Тут жа мяне выгналі з работы».

Пытанне: «Ці быў яшчэ хто-небудзь у НКУС з мясцовых, акрамя «Н»?» — «Называюць яшчэ нейкага з Зеляноўкі (вёска ўжо не існуе — **З. П.**). Казалі, што той нават адзежу з забітых здымаў і прадаваў за гарэлку».

Вядомы яшчэ прозвішчы двух забойцаў. Абодва ўжо памерлі. Адзін у Расіі, другі быў жанаты на тутэйшай і пахаваны ў нас. Думаю, пайду хоць на жонку яго пагляджу. Мяккая мэбля, дываны і т. п. мяшчанскія радасці. На фатаграфіі класічная фізіяномія забойцы-сталініста. Што чакаў, тое і ўбачыў. Аж не верыцца. «Муж работал в НКВД», — паведамлена было мне. З размовы адчуў, што ўсё яна ведала, чым ён займаўся, а вось жа выйшла замуж. Што ж, на тых матрацах з чалавечых валасоў, што гітлераўцы рабілі, павінен быў таксама нехта спаць.

Ва ўсе часы не абыходзіцца без выродкаў. Што ўжо казаць пра грамадства 30-х? Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што сярод цнянцаў было шмат добрых, прыстойных людзей. Пра аднаго з іх старшыню сельсавета, а потым калгаса Цімоха Васільевіча Бацяна ўжо ўспаміналася. Ён не выдаў, не прадаў ніводнага земляка. Хоць ад яго патрабавалі. Цімох Васільевіч быў чалавек мужны і нетыповы для таго подлага часу. Былая цнянская настаўніца Надзея Апанасаўна Мікуліч (1926 г. нарадж.) расказвае, што, калі забралі настаўніка Арсеня Паўлавіча Грушу, перад яго жонкай Вольгай Іванаўнай некаторыя напалоханыя цнянцы зачынялі дзверы, каб не ўгнявіць сталіністаў. Толькі Цімох Бацян не зачыняў дзвярэй і дапамог няшчаснай, забітай кабеце ў яе жыццёвых патрэбах і бядзе. Тады энкавэдзісты схапілі ноччу Цімоха Васільевіча і тут жа павезлі за плот. Паставілі на край ямы, наган у горла — «будешь давать врагов народа, али нет?» «У мяне няма ворагаў», — адказвае Бацян. «Давай врагов или убьём!» «У мяне няма ворагаў!» — закрычаў на іх Цімох Васільевіч. І... дзіва — яны не застрэлілі яго. Пэўна, не хапіла фармальнасцяў.

Затое хапала фармальнасцяў, каб забіваць сотні тысяч бясправўных. Сталіністы адправілі на той свет бацькоў Надзеі Апанасаўны. Яна ўспамінае, як у яе роднай вёсцы Малышэвічах пад Слуцкам забіралі сялян. Сярод іншых схапілі шасцідзесяцігадовую адзінокую жанчыну Марылю Шмак. Яна была зусім глухая і непісьменная, жыла ў пограбе ў страшэннай беднасці (нават хаты сваёй не мела). Яе катавалі «з выдумкай», сыпалі ў горла пясок, дабіваліся нейкіх прызнанняў. Потым, наздзекаваўшыся, стукнулі па галаве — яна тут жа і сканала...

У 1986 годзе мне давялося рабіць самыя цяжкія археалагічныя даследаванні ў маім жыцці—раскопкі падмуркаў касцёла і кляштара Дамініканцаў у Мінску. Цяжкія не ў тым сэнсе, што было ўскрыта 1000 кв. м плошчы за сезон і прыйшлося працаваць часам па 18 гадзін у суткі, цяжкія тым, што помнік быў нібы «ўтоплены» ў чалавечых касцях, пахаваннях і брацкіх магілах сярэдзіны XVII стагоддзя. Вось велізарная магіла 11 метраў удаўжыню. Завал касцей. Шкілеты ў тры штабелі. Мушкетныя прастрэлы ў чарапах, праломы. Гэта быў час страшнай вайны, час жахлівага вынішчэння, калі было забіта, загінула, вымерла ад эпідэмій большая палова (51 працэнт) насельніцтва Беларусі. Тады наш народ перамог, адстаяў сваю незалежнасць, але сілы яго ўжо былі падарваны. Больш жахлівай пары не ведала наша гісторыя аж да першай паловы XX ст., да часоў сталіншчыны. І, о няшчасце, яно прыйшло якраз тады, калі мы толькі-толькі пачалі станавіцца на ногі, калі перад нашай нацыянальнай будучыняй яшчэ толькі трымцела світанне...

Вось яно, наша світанне, у раскапаных магілах у Курапатах глядзіць на мяне пустымі вачніцамі, з якіх, нібы слёзы, высыпаецца, сыплецца жоўты пясок. Выбіраем рэшткі... Доўгія валасы жанчыны, светлыя, нібы лён, выцягваем з-пад прастрэленых чарапоў, асцярожна, каб не парваць... Адна пасма, другая, трэцяя... гузікі з-пад бялізны... Мінае працоўны дзень і ноччу прадаўжаецца ўсё ў свядомасці — цягну, бясконца выцягваю з-пад касцей кужэльныя валасы, светлыя, нібы лён, і няма ім канца...

Калісьці, расчышчаючы косці забітых продкаў у брацкай магіле ля Дамініканца, я думаў: Госпадзі, хоць бы апошні раз мне такія раскопкі, хоць бы гэтая чаша мінула мяне! Не мінула. Мы нікуды не дзенемся ад нашай гісторыі. І жывыя і мёртвыя — мы адно. Мы — народ. І калі мы ўжо мёртвых нічым не ўспаможам, то мёртвыя нас успамогуць. Яны могуць асвяціць нам шлях, асвяціць нашы душы сваімі пакутамі, ускалыхнуць нашы розумы, сэрцы і дух, калі толькі таго мы захочам... Чуеце, як шалеюць цемрашалы, як яны імкнуцца «забіць» нашых мёртвых, схаваць, абылгаць, абпляваць, затаптаць. Гэй, хто там? Гэта вы, лэдзі Макбет?—Не змываецца ж кроў! О, гэтая глыбокая таемнасць смерці! О, сіла продкаў, калі ў Дзень Задушны адбываецца яднанне! І калі мы згубім, страцім гэтую сілу, нас — няма.

Кожны чалавек, братове, кожны сумленны чалавек павінен змагацца з сталінізмам — гэтай самай подлай, самай ілжывай, самай антыгуманнай з'явай, якая існавала калі-небудзь на свеце.

**Р. S. Спецыялістам добра вядома, якія пачварныя формы і маштабы набыло апошнім часам разбурэнне і рабаванне помнікаў археалогіі «марадзёрамі». Прыходзілася не раз папярэджваць, што пасля катарсісу, выкліканага ў большасці людзей асэнсаваннем Курапат, пасля даследаванняў Пракуратуры і АН БССР можа выявіць сябе таксама і маральны «люмпен». Так і здарылася. Пакуль адны перажываюць узрушэнне, іншыя рабуюць магілы расстраляных у Курапатах, раскопваюць, раскідаюць косці. Ёсць людзі, здольныя абакрасці нават трупы няшчасных! (Дадаём, што ў рэдакцыі «ЛіМа» ёсць сігналы аб фактах самавольных раскопак, відаць, з марадзёрскімі мэтамі. — Рэд.)**

З. П.

*Пошукі, знаходкі*

# «З кітайскай пераклаў прыват-дацэнт Аляксееў...»

Не адзін раз даводзілася перагортваць гадавікі «Нашай Нівы» і кожнага разу газета адкрывала — і адкрывае — што-небудзь ды новае. На гэты раз я звярнуў увагу на пераклады кітайскіх казак «Даос з гор Лао» і «Гульня мячом у падводным царстве», змешчаных у нумарах 23, 24 і 28 за 1910 год.

І зацікавілі мяне мо не так самі пераклады — гэтую з'яву я ўспрыняў як самую звычайную, хоць для таго часу яна была не такая ўжо і звычайная. Зацікавілі мяне прыпіскі ў канцы перакладаў: казкі з кітайскай мовы для «Нашай Нівы» пераклаў прыват-дацэнт В. Аляксееў. А побач з прозвішчам перакладчыка значылася і месца, дзе гэтыя творы перакладаліся — м. Карльсбэрг Вілейскага павета Віленскай губерні.

Карльсбэрг... Дык гэта ж сядзіба знанага культурнага дзеяча Андрэя Сніткі! Тут на пачатку стагоддзя ладзілі беларускі тэатр. Сюды не адзін раз прыязджаў з фанографам вядомы філолаг Шахматаў. Пазней тут жыў і пісаў свае творы Янка Купала. І вось з Карльсбэрга (у Купалы — Калісберг) яшчэ прыходзілі ў «Нашу Ніву» і пераклады з кітайскай мовы.

Вядома, захацелася даведацца і пра перакладчыка. Хто ён, Аляксееў, што наважыўся разнастаіць публікацыі «Нашай Нівы» перакладамі з кітайскай мовы? З гэтым пытаннем найперш звярнуўся да Веры Андрэеўны Ніжанкоўскай (Тарашкевіч) з Сніткаў, якая расла і гадавалася ў Карльсбэргу. І сапраўды: яна крыху памятала Аляксеева. У Карльсбэргу ён правёў цэлае лета 1910 года — ці то госцем, ці то настаўнікам яе братоў. Прыехаць сюды яму нараіў ці не сам Шахматаў. У гэтую пару Аляксееў сур'ёзна займаўся перакладамі і даследаваннямі кітайскай літаратуры.

І вось аднаго разу за гэтым заняткам прыхапіў яго дзядзька Веры Аляксееўны Аляксандр Уласаў. Разгаварыліся, зацікавіліся адзін адным, і Уласаў падахвоціў Аляксеева на пераклад кітайскіх казак на беларускую мову.

Той пагадзіўся. З боку Аляксеева гэта быў прыгожы высакародны жэст. «Наша Ніва» даражыла кожным прыхільнікам. Нездарма ж у прыпісцы значыліся словы: «пераклаў для «Нашай Нівы» прыват-дацэнт». Аляксееў працаваў у тую пару ў Пецярбургскім універсітэце, і для аўтарытэту «Нашай Нівы» гэта таксама было важна. Дапамагалі Аляксееву тлумачыць кітайскія казкі на беларускую мову, на думку Веры Андрэеўны, ці яе тата, ці брат, ці ўсе разам—Сніткі ведалі беларускую мову.

З іншых драбніц Веры Андрэеўны пра Аляксеева яшчэ памятаецца, што нібы ён удзельнічаў пад час свайго побыту ў Карльсбэргу ў радашкавіцкім аматарскім спектаклі. Згадваецца ёй, і як ён арганізаваў спаборніцтва на бег, калі пераможаны мусіў на спіне пранесці пераможцу. Адным словам, паводле Веры Андрэеўны, гэта быў і вучоны, і вясёлы хлопец.

В. Аляксееў памёр у 1951 годзе. Ён быў членам-карэспандэнтам АН СССР, яе акадэмікам. Шкада, што нікому з беларусаў не выпала пагутарыць з ім, распытацца больш падрабязна пра гісторыю яго карльсбэргскіх перакладаў. Яны, здаецца, ці не самыя першыя пераклады з кітайскай мовы на беларускую. Ці не з іх бяруць адлік беларуска-кітайскія літаратурныя сувязі?

Імя Аляксеева значыцца ў Вялікай Савецкай Энцыклапедыі як славутага савецкага кітаіста. Будзем спадзявацца, што і ў беларускіх даведніках для яго знойдзецца колькі радкоў.

Магчыма, нашым даследчыкам удасца раскрыць яшчэ якіясь «беларускія старонкі» ў біяграфіі Аляксеева. Не можа ж быць, каб яго кантакт з Беларуссю абмежаваўся толькі публікацыяй у «Нашай Ніве» двух перакладаў ды пабыўкай у Сніткаў.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

# ПІСАЎ КАБЗАР У ГОРКІ

У 1935 годзе ў «Литературном наследстве» (тамы 19—21) былі апублікаваны два нявыдадзеныя пісьмы Шаўчэнкі Піліпу Мікалаевічу Каралёву і канверт ад не дайшоўшага да нас трэцяга пісьма. Гэтыя пісьмы паступілі ў Дзяржаўны літаратурны музей у Маскву ад нашчадкаў А. Н. Пыпіна (1833—1904 гг.) — вядомага рускага літаратуразнаўцы.

У прадмове да публікацыі пісем літаратуразнавец І. Айзеншток пісаў, што «... не ўдалося выявіць якіх-небудзь звестак пра адрасат пісем». Напэўна, І. Айзеншток не звярнуў увагу, што на канверце недайшоўшага трэцяга пісьма напісана: «Яго Высакароддзю Піліпу Мікалаевічу Каралёву. Прафесару Горы-Горацкага інстытута ў мястэчку Горкі Магілёўскай губерні». На паштовым штэмпелі пазначана месца адпраўлення: Ахтырка, Харкаўскай губерні, 14 жніўня 1846 года.

Прафесар Каралёў Піліп Мікалаевіч (1821 — 1894 гг.) па дадзеных энцыклапедычнага слоўніка Бракгаўза і Эфрона ўраджэнец Харкаўскай губерні, сын селяніна. Яму ўдалося закончыць фізіка-матэматычны факультэт Харкаўскага універсітэта. Потым працаваў настаўнікам матэматыкі Харкаўскай гімназіі.

З 1844 года працуе ў Горках, вядзе заняткі па матэматыцы, сельскай архітэктуры і прыкладной механіцы. У «Запісках Горы-Горыцкага земляробчага інстытута» ён друкуе свае навуковыя працы і ў 1855 годзе здае экзамены на магістра чыстай матэматыкі, атрымлівае званне прафесара.

У 1858 годзе П. М. Каралёў пераязджае ў Маскву; загадвае сіроцкім домам, кіруе жаночымі сельскагаспадарчымі курсамі. З 1870 па 1876 год узначальваў Пятроўскую (цяпер Ціміразеўскую) сельскагаспадарчую акадэмію. Потым пераехаў у Пецярбург, дзе выбіраўся старшынёй тэхнічнага аддзела Вольнага эканамічнага таварыства. Такі лёс чалавека, якому пісаў у Горкі Т. Р. Шаўчэнка.

Што расказваецца ў гэтых пісьмах? Перш за ўсё трэба адзначыць, што гэтыя пісьмы маюць вялікую каштоўнасць для вывучэння біяграфіі паэта, бо ў шаўчэнказнаўстве вядомы толькі два пісьмы за гэты перыяд. Літаратуразнаўцы з Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея УССР лічаць, што звесткі, якія змяшчаюцца ў гэтых пісьмах, маюць вялікае значэнне для даследавання і вывучэння біяграфіі паэта.

Цікава, што ў пісьмах адчуваецца глыбокая іх асабістая дружба і прыхільнасць. Аказваў Каралёў паэту і матэрыяльную дапамогу. Так, у першым пісьме Тарас Рыгоравіч піша: «Дзякуй табе, добры чалавек, за ласкавае слова, за грошы...»

У другім пісьме: «Дзякуй табе, мой голуб, што хоць ты мяне не забываеш. Прачытаў я тваё ласкавае пісьмо...»

А што вядома пра тое, як і дзе пазнаёміліся Тарас Рыгоравіч і Піліп Мікалаевіч? На наш запыт вучоны захавальнік фондаў аддзела рукапісаў Інстытута літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі Акадэміі навук УССР А. М. Палатай адказаў, што звестак аб асабістай дружбе Т. Р. Шаўчэнкі і П. М Каралёва не выяўлена.

З 1847 года сувязь паміж сябрамі магла спыніцца, бо паэт за ўдзел у дзейнасці Кірыла-Мяфодзіеўскага таварыства быў арыштаваны і сасланы радавым у асобны Арыенбургскі корпус.

У 1858 годзе Т. Р. Шаўчэнка вяртаецца ў Пецярбург, а П. М. Каралёў едзе з Горак у Маскву. Але пра іх далейшую сувязь і перапіску нічога не вядома.

Вось і ўсё, што ўдалося нам даведацца пра перапіску і дружбу паэта Т. Р. Шаўчэнкі і прафесара Горы-Горыцкага земляробчага інстытута П. М. Каралёва. Матэрыялы пра гэта павінны быць змешчаны ў музеі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Яны — яркі эпізод багатых літаратурных традыцый нашай вышэйшай школы.

**В. ЛІЎШЫЦ,**
дацэнт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі,
краязнавец.

г. Горкі.

# Ёсць у Алашках партрэт

Тое, што ў шаркоўшчынскім калгасе «Іскра» з асаблівай павагай ставяцца да Льва Талстога, невыпадкова. Пісьменнік — вялікі знаўца чалавечай душы і жыцця сялянскага. Адкуль яшчэ вытокі павагі і любові да Талстога? У вёсцы Алашкі ёсць партрэт пісьменніка з уласным подпісам. Ён падарыў жыхару вёскі Івану Паўлавічу Сікору. Імя І. П. Сікоры — выдатнага селекцыянера-мічурынца, заслужанага агранома БССР — сёння вядома ва ўсёй рэспубліцы. У Алашках ён разводзіў сады. Пакінуў пасля сябе добрую памяць і... партрэт Л. М. Талстога.

Якім жа чынам партрэт, на якім рукой геніяльнага майстра слова напісана «І. П. Сікору. Леў Талстой. 9 кастрычніка 1907 года», трапіў у Алашкі?

...У тую далёкую пару сын бедняка-селяніна Іван Сікора служыў у арміі і ўпершыню пачуў пра пісьменніка — народнага абаронцу— ад земляка Льва Талстога. Многа думаў салдат, перш чым напісаць пісьмо ў Ясную Паляну. Наважыўся, узяўся за пяро. Расказаў пра цяжкую салдацкую службу, пра цяжкую і горкую долю беларускіх сялян у яго родных Алашках. Салдат Іван Сікора прасіў даслаць яму кніжак. Хутка прыйшоў адказ. Спачатку пасылка з кнігамі, а пасля і партрэт з даравальным подпісам Льва Мікалаевіча.

Доўга працягвалася перапіска... Праз усе жыццёвыя выпрабаванні пранёс дарагі партрэт і бярог яго як самую каштоўную рэліквію вясковы хлопец, які толькі пры Савецкай уладзе змог праявіць сябе, упэўнена ісці дарогай навуковай і селекцыйнай дзейнасці.

Матэрыялы перапіскі цяпер знаходзяцца ў Маскве, у Дзяржаўным музеі Л. М. Талстога. А партрэт вісіць у зале дома сына І. П. Сікоры — Віктара Іванавіча Сікоры. Ён таксама ў нейкай ступені працягваў справу бацькі. Пэўны час загадваў апорным пунктам Беларускага навукова-даследчага інстытута бульбаводства і агародніны.

— Да мяне часта прыходзяць вучні, каб пабачыць партрэт, — гаворыць Віктар Іванавіч. — І я гэтым ганаруся. Ды і госці, якія прыязджаюць у калгас, не мінаюць маёй хаты, каб паглядзець на партрэт пісьменніка.

У сувязі з 160-годдзем з дня нараджэння Л. М. Талстога ў мясцовай бібліятэцы аформлена выстаўка, пройдуць чытацкія вечары, на якіх прагучыць бессмяротнае слова Талстога.

**Ф. РАМАШКА.**

г. п. Шаркоўшчына.




**З 19 ПА 25 ВЕРАСНЯ**

**19 верасня, 19.25**

**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО»**

**20 верасня, 21.50**

**«ЛІРА»**

Мастацка - публіцыстычная праграма.

Размова ідзе аб праблемах выкладання беларускай мовы ў сярэдніх школах.

Вядучая — пісьменніца В. Іпатава.

**21 верасня, 20.20**

**«МУЗЫКА МАЕЙ РЭСПУБЛІКІ»**

Г. Вагнер. Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам.

Выконвае заслужаны артыст БССР І. Алоўнікаў і Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр БССР.

**22 верасня, 19.25**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ»**

Вершы Я. Янішчыц чытае А. Эльяшэвіч.

**23 верасня, 19.50**

**«РАДЗІМІЧЫ»**

Літаратурна - мастацкі часопіс знаёміць з культурным жыццём Гомельшчыны.

Першы сюжэт прысвечаны творчасці А. Грачанікава, выхадца з гэтых мясцін. Убачыце вы і фотапартрэты. Л. Граматчыкавай, пачуеце песні самадзейнага кампазітара І. Варэніка.

**24 верасня, 17.30**

**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**

У чарговым выпуску тэлеальманаха працягваецца размова аб справах беларускіх часопісаў. Размову вядуць В. Блакіт, М. Чарняўскі, У. Сіўчыкаў, П. Драчоў, У. Някляеў, Г. Скварodка, І. Багдановіч.

**24 верасня, 18.30**

**«СКАРБОНКА БЕЛАРУСКАЯ»**

Фальклорна - этнаграфічная праграма з удзелам самадзейных калектываў Кіраўскага і Горацкага раёнаў Магілёўскай вобласці.

**24 верасня, 19.35**

**ТЭЛЕВІЗІЙНЫ ВЕРНІСАЖ**

«У жывапісе, графіцы, скульптуры».

Абмеркаванне пытанняў, звязаных з праблемамі абласных аддзяленняў Саюза мастакоў БССР.

**24 верасня, 20.35**

Спявае маладзёжны камерны хор (г. Мінск). Кампазіцыя на тэмы песень ансамбля «Бітлз».

**25 верасня, 13.50**

**«ПРА МУЗЫКУ АД «А» ДА «Я»**

Праграма запрашае ў падарожжа па мясцінах, звязаных з імёнамі таленавітых людзей. У Нясвіжскі замак, дзе ў 20—30 гады XVIII стагоддзя існаваў славуты тэатр. (Наш расказ пра артыстаў гэтага тэатра—танцаўшчыцу А. Дарэўскую і музыканта, дырыжора Ю. Дашчынскага). У Залессе, дзе М. Агінскі напісаў свой паланез «Развітанне з Радзімай». У вёску Малая Люцінка, што недалёка ад Стоўбцаў, дзе жыў вядомы драматург В. Дунін-Марцінкевіч.

**25 верасня, 15.15**

Прэм'ера песні. У. Кудрын. С. Грахоўскі. «Асеннія азёры».

**25 верасня, 19.45**

**«І РАДАСЦЬ, І БОЛЬ»**

С. Грахоўскі. Да 75-годдзя з дня нараджэння.

**25 верасня, 23.00**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна - музычная праграма.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 01362

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.